

Драўляны рай →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Юбілей у Дубічах →8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 44 (2999) Год LVIII

Беласток, 3 лістапада 2013 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Фестываль беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні «Бардаўская восень — 2013» быў падвядзеннем вынікаў фестывалю на працягу дваццаці гадоў, пачынаючы з яго вытокаў. Сёлетні юбілейны выпуск, які праходзіў ад 24 да 27 кастрычніка, ахапіў Бельск-Падляшскі, Беласток, Гайнаўку, Нараўку, Нарву і Шчыты-Дзенцялова. У час канцэртаў выступілі лепшыя гурты розных выпускаў фестывалю. «Бардаўская восень» стала вядомым брэндам на Беласточчыне і ў Рэспубліцы Беларусь, адкуль прыязджаюць выканаўцы і зоркі гэтага музычнага мерапрыемства.**



Алесь Камоцкі



Альжбета Бэзюк

# XX «Бардаўская восень»



Кася Камоцкая і гітарыст Сяргей Скурат



Віктар Шалкевіч

Першы галоўны арганізатар «Бардаўскай восені», якая ладзіцца ў Бельскім доме культуры з 1994 года, Багдан Сіманенка так заяўляе пра ініцыятыву стварэння бардаўскай імпрэзы:

— Ідэя «Бардаўскай восені» ўзнікла спантанна, у крузе трох асоб. Мы з Юркам Асеннікам і Тамашом Андраюком хацелі наладзіць нейкае новае мерапрыемства. Бачылі, што ў Гайнаўцы адбываецца Фестываль царкоўнай музыкі, у Беластоку ладзяцца іншыя мерапрыемствы і падумалі пра сваю імпрэзу ў нашым горадзе Бельску. Барды перасталі выступаць на «Басовішчы» і мы рашыліся арганізаваць імпрэзу для бардаў. У мяне былі кантакты з выканаўцамі ў Беларусі, якія прыязджалі на «Басовішча» і мы рашылі запрасіць іх у Бельск. Калі наладзілі першае мерапрыемства, сталі ладзіць чарговыя, — сказаў мне былы старшыня Звязу беларускай моладзі Багдан Сіманенка. — Зараз бачым, што ідэя «Бардаўскай восені» апраўдалася. На сцэне і сярод публікі пануе непаўторная атмасфера. Можна было сумясціць выступленні бардаў і гуртоў з аўтарскімі песнямі. «Бардаўская восень» — першы і найбольшы ў свеце фестываль беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні. Такога фестывалю няма ў Беларусі, бо там няма ўмоў для такой імпрэзы.

Ад пачатку фестывалю выступае Алесь Камоцкі:

— Фестываль «Бардаўская восень» мне вельмі дарагі, бо я быў пры яго стварэнні. Багдан Сіманенка, з якім я быў знаёмы яшчэ з «Басовішча», дзе барды таксама спачатку выступалі, папрасіў мяне, каб я дапамог яму пры арганізаванні першага фестывалю. Я дапамагаў збіраць спевакоў з Беларусі на першы фестываль. Да пятнаццатага выпуску не прапусціў я ніводнага фестывалю. Добра, што гэты фестываль столькі гадоў арганізуецца, — заявіў Алесь Камоцкі — адна з галоўных зорак «Бардаўскай восені», які 25 кастрычніка адкрыў у Бельскім доме культуры юбілейны фестываль і захапіў публіку ў час першага канцэрта.

У час адкрыцця фестывалю было многа віншаванняў, пажаданняў і лістоў ад важных асоб. Ігар Лукашук, старшыня Звязу беларускай моладзі (які памяняў назву на «Шчыты — Звяз у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры»), падзякаваў асобам і ўстановам, якія дапамагалі ладзіць музычнае мерапрыемства на працягу гадоў. Гасцямі фестывалю былі Яраслаў Малэцкі з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Анатоль Вап — дырэктар Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку, бельскі віцэ-староста Пётр Божка, былы бельскі бурмістр, а зараз дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк і дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі Роберта Скальмоўскі. На сцэну выйшла ўзрушаная наша паэтэса Надзея Артымовіч, на словы якой выконваліся песні. Паколькі сёлетні выпуск быў юбілейным, не было конкурсных слуханняў. Асноўная частка фестывалю, якая 25 і 26 кастрычніка праходзіла ў БДК, была падзелена на два канцэрты. У пятніцу з канцэртам «Вытокі» выступілі выканаўцы «Бардаўскай восені» першай яе дэкады, а ў суботу запрэзентаваліся спевакі і гурты ў час канцэрта «Новыя плыні».

Алесь Камоцкі, Кася Камоцкая і Віктар Шалкевіч — волаты бардаўскай песні ў час канцэрта «Вытокі» даказалі, што вартыя такога названня. Побач іх вельмі прыстойна запрэзентаваўся таксама Алег Кабзар, які другую частку свайго выступу прысвяціў паэтэсе Надзеі Артымовіч.

— Мне, канешне, найбольш блізкія выступы з аўтарскімі творамі пад гітару. Спадзяюся, што такой музыкі будзе як найбольш у час «Бардаўскай восені» ў будучыні, — сказала Кася Камоцкая пасля вельмі ўдалага выступу з гітарыстам Сяргеем Скуратам.

— Трэба ў будучыні прамаваць як мага найбольш спевакоў з Беласточчыны, — заявіў Віктар Шалкевіч.

Наведвальнікі фестывалю помняць выступы гурту «Белы сон», а таксама Альжбеты Бэзюк і Дарафея Фіёніка. Яны згадзіліся выступіць на юбілейным канцэрце, каб наблізіць атмасферу фестываляў дваццацігадовай даўнасці.

— Першыя выпускі «Бардаўскай восені» былі своеасаблівымі з-за непаўторнай атмасферы ў час канцэртаў. Выконваліся песні, якія мы спявалі каля вогнішчаў, у час шматлікіх беларускіх рэйдаў, што асабліва прыцягвала на «Бардаўскую восень», — сказаў фальклярыст Дарафей Фіёнік са Студзіводаў, які ў час канцэрта заспяваў свае даўнія творы пад

працяг ☞5





# Цывілізацыйны выбар

Ці думала кіраўніцтва Расіі, калі рабіла стаўку на Януковіча, што пад яго кіраўніцтвам Украіна яшчэ раней можа апынуцца ў цесных стасунках з Еўрасаюзам, чым пры Юшчанку? Думаю, Пуцін гэтага не мог уявіць нават у страшным сне. Ідэі аранжавай рэвалюцыі жывуць і перамагаюць. І што з гэтым рабіць Расія не ведае.

Ёсць, праўда, на Украіне крыху прарасійскі Крым. Можна яго падключыць. Ёсць спрэчныя пытанні па Чарнаморскім флоце. Можна пастарацца пагуляць паперамі СНД. Можна нават увесці войскі, як у Грузію. Толькі які сэнс? Ну ўявілі ў Грузію. І што? Грузіны ўсё адно выбіраюць Еўрасаюз. Бо гэта не толькі эканамічны інтарэс, хоць і яго нельга не ўлічваць. Гэта цывілізацыйны выбар: Еўропа ці Азія? Вось як стаіць пытанне. І калі ўкраінскі народ лічыць сябе еўрапейскім, то і адказ на яго відавочны. Хоць ты Юшчанку скідвай, хоць Цімашэнку нейтралізуй, хоць Януковіча рабі прэзідэнтам.

Расія так і не можа вызначыцца, хто ж яна — Еўропа ці Азія. Яна ўвесь час сцвярджае, што нешта сярэдняе і ўсё больш губляе Еўропу. А Азія яе ніколі не прызнавала сваёй, і ніколі не прызнае. Расіі зараз не трэба шкодзіць Украіне. Расіі зараз трэба браць прыклад з Украіны і крочыць яе шляхам. Але яна на гэта не здольная. Прынамсі сёння.

Мы, беларусы, зараз сіратліва застаемся разам з рускімі разграбаць азіяцкія справы. Вялікага аб'яднання так званых усходніх славян, якія будуць вызначаць галоўныя пазіцыі ў Сярэдняй Азіі, мець там непахісныя ўплывы і кіраваць усімі працэсамі, не атрымалася. Ды нават каб Украіна не павярнулася тварам да Еўропы, то і тады не атрымалася б. Сёння ўжо азіяцкія народы каланізуюць Расію, а не наадварот.

Кіраўніцтва Беларусі сціпла, і нават неяк сарамліва заявіла, што не бачыць праблем у тым, што ўкраінцы ідуць у Еўропу. А што яму яшчэ застаецца рабіць? Заявіць то заявіла, але ж праблемы ад гэтага не прапалі. Што скажа беларус, які зноў летам захоча паехаць адпачыць на свой любімы курорт на Чорным моры, а на мяжы з Украінай у яго запатрабуюць візу? Што ён заявіць прыехаўшы з адпачынку і паглядзеўшы як мяняецца жыццё суседзяў дзякуючы еўрапейскім грашовым уліванням у дарогі і іншую інфраструктуру? Калі ён там, на Украіне, убачыць ветлівых міліцыянтаў, паглядзіць на празрыстыя выбары і зойдзе ўжо ў еўрапейскія гіпермаркеты з еўрапейскімі коштамі. Калі ён параўнае якія машыны купляюць украінцы і як яны смяюцца з дабітага расійскага «Жыгулі» з беларускімі нумарамі. І ён, беларус, будзе яшчэ памятаць, што зусім нядаўна ўкраінцы жылі бядней чым ён. А зараз!? І тады ён прыпомніць, што і палякі некалі жылі не багацей. А зараз!? І чыноўнік беларускі ўбачыць, што можна патрапіць у Еўропу і не згубіць свайго цёплага месца. І на каго гэты беларус пачне звальваць віну? Думаю, адказ відавочны. На кіраўніцтва.

Бо гэта яно, кіраўніцтва, цягне беларусаў у Азію. А яны, беларусы, свой цывілізацыйны выбар ужо даўно зрабілі. І гэты выбар еўрапейскі. Бо як толькі які беларус можа знайсці працу ў Еўропе, то адразу ўсё кідае і ляціць туды. Абы зачапіцца за тую Еўропу. А вучоба для дзяцей! Усе, хто можа, праўдамі і няпраўдамі пхаюць сваіх дзяцей вучыцца на Захад. Праз грошы, праз апазіцыйныя праграмы, праз карту паляка, праз усё што можна. І простыя калгаснік, і вялікі начальнік. Абы выперці сваіх дзетак з Азіі ў Еўропу, абы перакінуць праз гэты азіяцка-еўрапейскі цывілізацыйны мур.

А кіраўніцтва краіны пхае ў гэты час старадаўні еўрапейскі народ у Азію. Распрацоўвае нейкія праграмы прыцягнення ў Беларусь азіяцкай працоўнай сілы. А не стварае ўмовы, каб сюды з радасцю і гонарам ехалі маладыя беларусы з Казахстана ці Сібіры, якіх там многа, і якія прагнуць вярнуцца на гістарычную Радзіму. І хочуць бачыць яе еўрапейскай. Зусім жа нядаўна былі часы, калі ў беларускія вузы ехалі вучыцца не прадстаўнікі азіяцкіх краін, а маладыя беларусы з Еўропы.

Дык які ж цывілізацыйны выбар, еўрапейскі ці азіяцкі, пераможа ў Беларусі? Час хутка ўсё расставіць на месцы. На Украіне ўжо расстаўляе.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Галоўнае гэта інавацыйнасць



У нас быў сезонны высып вельмі ж шаноўных вылучэнняў, прысуджваных штогод фондам Альфрэда Нобеля. Хто заслугоўвае яго, таму слава. І шмат грошай. Я не сумняваюся, што, нарэшце, будзе прадстаўлены такі гонар беларусу — Беларусі належыцца гэта здаўна. Хапае там здараленых галоў — матэматыкаў, фізікаў, хімікаў, інжынераў. Гэта ўсяго толькі пытанне часу, калі хтосьці з іх аб'явіць усяму свету сваю «эўрыку». Інтэлектуальны патэнцыял беларусаў не меншы, чым у французаў і амерыканцаў. Гэтак жа, як латышоў, эстонцаў і літоўцаў. Справа ў грашах. Дакладней, у іх адсутнасці. Як вядома, багатыя могуць больш. Навуковыя даследаванні каштуюць дорага. Могуць сабе на гэта дазволіць вялікія карпарацыі або субсідаваныя ўрадамі або буйным капіталам універсітэты і навукова-даследчыя інстытуты. Напрыклад, амерыканскі ўніверсітэт Гарвард мае бюджэт крыху меншы чым бюджэт Эстоніі. Тым не менш, менавіта ў гэтай трохмільённай краіне мае хутка здзейсніцца рэвалюцыя інфармацыйных тэхналогій. З пункту гледжання колькасці жыхароў ёсць там больш інфарматыкаў чым у ЗША і Японіі разам узятых. Пры такой сцісласці мазгоў, зіхацеючых канкурэнтаздольнымі ідэямі, павінен наступіць якасны скачок, параўнальны з рэвалюцыйнымі наступствамі распаўсюджання персанальных камп'ютараў, мабільных тэлефонаў або інтэрнэту. Той факт, што іх стваральнікі не былі ўзнагароджаны нобелеўскім лаўрам тлумачыць толькі адно: яны проста па-наватарску разгледзелі ранейшыя, часта бліскучыя, навуковыя тэорыі. Гэтак жа, як не Эдысан адкрыў электрычнасць, а толькі вынайшаў практычнае яе выкарыстанне, так нікому з іх не прыйшла ў галаву канцэпцыя існавання мікрахваль, штучнага мозгу або сеткавага абмену данымі паміж камп'ютарамі. Тым не менш, іх ідэі перааралі наш свет наскрозь, што, на жаль, гучыць таксама аптымістычна, як і трывожна. Паўголы пігмей з ноўтбукам пад пахай ужо нікога не здзіўляе. Дзякуючы інтэрнэту нівелююцца няроўнасці цывілізацыі. І гэта ўсяляе ў чалавека аптымізм. Турбуе ў той час непрадказальнасць змен, якія адбываюцца ў чалавечым мысленні. Калі першабытны чалавек вынайшаў лук для палягчэння здабывання ежы, у той жа час палічыў, што гэта таксама выдатны інструмент для забівання людзей. Што выдумаюць эстонскія праграмісты яшчэ невядома. Увогуле, невядома, ці гэтае імклівае развіццё інфармацыйных тэхналогій не прывядзе чалавецтва да катастрофы. Можна сказаць напэўна, што малыя, перыферыйныя краіны павінны знайсці сабе такую галіну дзейнасці, якая адпавядае патрабаванням канкурэнтаздольнасці ва ўмовах усё больш жорсткай глабалізацыі сістэмы абмену ідэямі і дабром. Я не кажу, што неадкладна трэба адмовіцца ад вырошчвання бульбы і клапаціцца аб будаўніцтве міжпланетных ракет. Вядома, той, хто вынайшаў бульбяныя чыпсы не быў разявай. Шрубы, якія выясняюць цвікі хтосьці таксама вынайшаў. Інавацыя заключаецца ў прыродзе чалавека. Яе проста трэба задзейнічаць. Шмат што залежыць ад дзяржавы. Магчыма, вялікія дзяржавы могуць дазволіць сабе (таксама да часу) на марнаванне чалавечага патэнцыялу. А ці ў змозе рабіць гэта малыя дзяржавы? Я не думаю, каб сагнанне на ўборку бульбы паловы дарослага насельніцтва краіны вынікала з інавацыйнасці кіраўніцтва.

Аднак суперінавацыйнай з'яўляецца Шнобелеўская прэмія — Ig Nobel Prize, якая прысуджаецца за дасягненні ў навуцы, «якія спачатку смешаць, а затым схіляюць задумацца». Сярод пераможцаў у гэтым годзе была, між іншым, група навукоўцаў, якія займаюцца вывучэннем тонкасцей рахунку верагоднасці. Іх высновы заключаюцца ў тым, што «чым даўжэй ляжыць карова, тым большая верагоднасць, што карова падымецца», стымулюе да глыбокага одуму. Асаблівa ў кантэксце іншага лаўрэата Шнобелеўскай прэміі, вылучанага за аўтарскі дэкрэт, забараняючы публічных апладысментаў у свой адрас. Гаворка ідзе пра Аляксандра Лукашэнку. У выніку яго інавацыйнага падыходу да апладысментаў, капітул Шнобелеўскай прэміі ўдастоіў беларускую міліцыю, якая арыштавала аднарукага грамадзяніна за іранічныя апладысменты ў адрас прэзідэнта. Ці той няшчасны пляскаў ці не, тут малаважнае. Таму што па даных міліцыі верагоднасць таго, што ён заплешча тым большая, чым больш ён хацеў запляскаць. Такім чынам, яны даказалі тэорыю пра карову, якая ляжыць. Ну, хіба што здохла, тады яна ніколі не падымецца. Інакш аднарукі бедалага, які ў арышце, верагодна, падняўся на сваіх сілах з падлогі, хаця пад ударамі міліцыі ўпаў. Вось у чым інавацыйнасць. Якая б там яна была.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Талерантнасць паводле праграмы

«Беласток для талерантнасці» — гэтак называецца праект праграмы, падрыхтаванай уладамі Беластока, у адпаведнасці з якой павінны быць прыняты сістэмныя меры па барацьбе з расавай дыскрымінацыяй, ксенафобіяй і звязанай з імі нецярпімасцю — неталерантнасцю. Праграма мае быць рэалізавана ў 2014-2017 гадах. Яе асноўная мэта заключаецца ў «рэалізацыі мер па прадухіленні і барацьбе з ксенафобіяй, расізмам і неталерантнасцю, і фармаванне ў грамадстве Беластока культуры талерантнасці ў адносінах да людзей, незалежна ад іх расы або веры». Стратэгічнай мэтай павінна быць «распрацаванне метадаў процідзеяння гэтым з'явам і распачацце практычных крокаў, у прыватнасці, адукацыя, інфармаванне грамадскасці, маніторынг маштабу і сферы ксенафобіі і расізму, усведамлянне грамадзян аб іх правах і абавязках і эфектыўная барацьба супраць усіх форм ксенафобіі, расізму і неталерантнасці з выкарыстаннем існуючых сістэм і забеспячэнняў». Яна будзе ажыццяўляцца ў чатырох галінах: грамадскай бяспекі, адукацыі і выхавання, культуры і спорту, сацыяльнай актывацыі. Толькі што скончыліся двухтыднёвыя кансультацыі з грамадскасцю па гэтай праграме.

У значнай частцы праекта праграма заснавана на даследаваннях, праведзеных у жніўні гэтага года па заказу беластоцкіх улад: «Дыягназ стаўлення жыхароў Беластока да талерантнасці». Выканаў іх Фонд Лабараторыя грамадскіх даследаванняў і дзеянняў «SocLab». З іх вынікае м.інш., што Беласток не належыць да гмін, дзе, нягледзячы на тое, што нацыянальную і этнічную прыналежнасць іншую чым польская дэкларуе як мінімум 10% насельніцтва, 84,1% насельніцтва ў цяперашні час лічыць горад Беласток мультыкультурным. Аўтары, прааналізаваўшы вынікі лабараторыі «SocLab», кажуць: «Гэта важны факт, які паказвае, што культурная, рэлігійная, рэгіянальная, этнічная разнастайнасць вызначаюцца паводле гістарычнай прыналежнасці прысутнай ва ўсім рэгіёне, не звязана з нацыянальнасцю, якая прадстаўляе больш агульную катэгорыю ідэнтыфікацыі. Але гэтае прызнанне горада мультыкультурным цесна звязана з узростам. Пажылыя людзі ахвотней падтрымліваюць гэтую «этыкетку» (больш за 90% людзей старэйшых за 55 гадоў яе прымае), чым маладзейшыя (31,1% сярод асоб ва ўзросце 15-25 і 23,9% ва ўзросце 25-34 гадоў горад не лічаць мультыкультурным)». Падкрэсліваюць: «Прадстаўленыя факты дазваляюць зрабіць выснову, што катэгорыя мультыкультурнасці губляе сваю каштоўнасць у якасці асновы для культурнай самабытнасці горада для маладых людзей, ад таго і іх меншая цікавасць да вывучэння іншых культур і гісторыі горада. У сувязі з гэтым, здаецца, што неабходна праводзіць палітыку, накіраваную на развіццё адукацыі па пытаннях талерантнасці і мультыкультурнасці».

Даследаванні таксама паказваюць, што ў жыхароў Беластока ёсць пачуццё існавання пытання аб талерантнасці. 54,4% выказалі меркаванне, што беластачане неталерантныя. Тут у праграме можна прачытаць зноў згодна з дадзенымі даследаванняў: «На думку рэспандэнтаў, у кантактах з замежнікамі галоўным чынам мяшае жыхарам Беластока псіхасексуальная арыентацыя (45%), колер скуры (41%) і веравызнанне (37%). Цікава адзначыць, што часта гэтыя аспекты паказваюць маладыя людзі ва ўзросце 15-35 гадоў».

У сваю чаргу ў рамках кансультацый Фонд «SocLab» сваядома падкрэсліваe, што «элементам праграмы не павінна быць нівеліраванне адрозненняў, але падтрымка павагі да іх і стварэнне магчымасці ўмацавання культурных адрозненняў, пры адначасным працэсе грамадскай інтэграцыі. Інтэграцыя не можа быць так разуметая як асіміляцыя (то-бок, культурная ўніфікацыя з большасцю)».

Дзіўна таксама гучыць у праграме сказ: «Прабыванне ў горадзе Беластоку нацыянальных меншасцей, замежнікаў і размешчання тут сакральныя аб'екты іншых веравызнанняў і ўвекавечваючыя грамадзян іншых краін паказваюць, што неабходна лічыцца з наяўнасцю пагроз і інцыдэнтаў на глебе расавай дыскрымінацыі, ксенафобіі і звязанай з імі неталерантнасці». І тут пытанне, ці калі б замежнікі не прыязджалі ў Беласток, калі б не было ніякіх нацыянальных меншасцей і гэтых згаданых аб'ектаў — ці падляшская сталіца была б узорам талерантнасці?

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Драўляныя скарбы Падляшша

**А перш за ўсё беларускія вёскі. Конкурс на *Найлепш захаваны помнік вясковага драўлянага будаўніцтва ў Падляшскім ваяводстве* дачакаўся дзевятага выпуску. А 90% заяўленых і ўзнагароджаных аб'ектаў было з гмін, дзе шчыльна пражывае беларуская меншасць.**




Удзельнікі конкурсу пад палацам у Цеханоўцы

На конкурс аб'екты заяўляюцца штогод гмінамі або індвідуальна ўласнікамі аб'ектаў драўлянай архітэктуры, з мясцовасцей налічваючых да 5 тысяч жыхароў — жылыя будынкі (хаты, двары, „чваракі", домікі дарожных абходчыкаў, гаспадарчыя будынкі — свіронкі, стадолы, вазоўні, манежы і да г.п., будынкі публічнага карыстання — вакзалы, корчмы, школы, сядзібы гміных улад, гмінныя свірны, прамысловыя будынкі — ветракі, млыны, кузні, цэлыя вясковыя гаспадаркі і дварскія комплексы. Да конкурсу можна заяўляць аб'екты пабудаваныя да 1956 года ўключна. Прымаецца пад увагу стан захавання згодны з традыцыяй рэгіянальнага вясковага будаўніцтва, аб'екты малой архітэктуры (платы, калодзежы, каплічкі), акаляючая зелень, спасылаючаяся на характар будынка, захаванне інтэр'ера згоднага з лакальнай традыцыяй, а асабліва печаў.

— Дзякуючы конкурсу, у жыхароў праяўляецца гонар за тое, што раней можа лічылася праявай беднасці, і разуменне натуральнай красы, — цешыўся старшыня камісіі Антоні Масевіч (родам з Ліды), старэйшы захавальнік Музея сельскай гаспадаркі імя Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы, галоўнага ад 2011 года арганізатара, разам з Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства, конкурсу — аднoй з самых каштоўных ініцыятыў у галіне захавання традыцыйнага культурнага краявіду падляшскай вёскі. — На карце Падляшша, а найбольш на Гайнаўшчыне аж густа ад значкоў, памечаных Артурам Гавэлам як месцы скарбаў будаўнічага драўлянага майстэрства і беражлівага іх захоўвання. Людзі маюць ужо свядомасць, што драўлянае будаўніцтва гэта не прыкмета адсталасці, а пачуцця хараства, ушанавання для культуры продкаў ды гаспадарлівасці. Разам з грашовымі ўзнагародамі адзначаныя аб'екты атрымліваюць спецыяльную таблічку з інфармацыяй аб вылучэнні. Гаспадары атрымліваюць таксама грашовыя ўзнагароды, якія найчасцей інвестуюць пасля ў свае будынкі. Ключавую ролю ў ахове драўлянага будаўніцтва адыгрывае пытанне змены ментальнасці ўласнікаў гэтых аб'ектаў. Захаванне гэтай архітэктуры служыць утрыманню культурнай тоеснасці Падляшша. Неабходнае таксама ўсведамленне мясцовых самаўрадаў — толькі актыўны ўдзел у захоўванні гэтых помнікаў можа прынесці поспех у гэтым дзеянні. Якраз свядомасць уласнікаў узнагароджаных аб'ектаў адыгрывае вырашальную ролю ў іх паспяховым захаванні. Кожны з узнагароджаных будынкаў становіцца свайго роду ўзорам для мясцовай грамадскасці: як дбаць аб драўляных аб'ектах, каб як найдаўжэй захавалі свае каштоўнасці. Шмат з іх з'яўляецца прыкладам умела праведзеных мадэрнізацый, дастасоўваючых інтэр'ер да патрабаванняў сучасных жыллёвых стандартаў пры адначасова як найменшым умяшанні ў іх старадаўні стан. Агулам сума ўзнагарод у конкурсе склала 28 тысяч злотых. Першая — 6 тысяч зл., тры другія ўзнагароды па 3 тысячы злотых, пяць трэціх узнагарод па паўтары тысячы злотых і адзінаццаць вылучэнняў па 500 злотых. Дадатковыя ўзнагароды ахвяравалі сваім пераможцам таксама войты гмін, адзначаючы, што такія аб'екты сведчаць аб гміне і з'яўляюцца яе прамоцыяй, прыцягваючы сваёй адметнасцю турыстаў.



Геня Раманюк у хату ў Паўлах прывезла таксама матчына рукадзелле

Агулам да IX выпуску конкурсу было прадстаўлена 36 заяў (39 аб'ектаў) з 14 гмін. Адна чвэрць заяўнікоў былі гэта індывідуальныя ўласнікі, апошнія заявілі гмінныя ўстановы. Асаблівая падзяка прагучала для войта Нараўчанскай гміны, якая запрапанавала аж 8 аб'ектаў, прытым у час, калі гміну залілі растопы. Паявіліся таксама пасінаты з-па-за Падляшша, у чыіх руках апынуліся помнікавыя будынкі, а таксама спадкаемцы гаспадарак, якія з вялікай беражлівасцю і веданнем іх аднаўляюць, захоўваюць. Для гэтага часам трэба немалых коштаў; адна з удзельніц конкурсу заказала спецыяльныя вокны з малымі шыбкамі, каб не ўстаўляць папулярны „плястык", які шкодзіць драўлянне і агульнаму выгляду будынка ды практычна пазбаўляе яго ўдзелу ў змаганні за званне помніка драўлянай архітэктуры. У гісторыі конкурсу ўзнагарожана 668 аб'ектаў, якія сталі сімваламі Падляшша.

Найбольшая група заяўленых абе'ктаў гэта хаты (32). З гаспадарчых будынкаў заяўлена тры стадолы і дапаможны будынак. Апошнія будынкі гэта два ветракі, будынак былога вакзала, які цяпер выконвае функцыю начлежнага дома. Найбольш будынкаў заяўлена з Гайнаўскага павета (14), з Беластоцкага — 8, з Сакольскага — 6 і 4 з Сямятыцкага, два — з Высока-Мазавецкага і па адным з Бельскага і Ломжынскага паветаў. З іх у XIX стагоддзі пабудаваны тры, між іншым, дом у Чыжах (закончылі яго будаваць 25 кастрычніка 1895 г.).

Першае месца сёлета заняў будынак Віталя і Яўгеніі Раманюкоў (Паўлы, 26), другое — хата Вольгі і Мікалая Нікалаюкоў (Чыжы, 94), ветрак Васіля Івацка (Карыцкіе, 32, гміна Дубічы-Царкоўныя), хата Уладзіміра Мельніцкага (Радунін, 32, гміна Гарадок). На трэцім месцы апынуліся хата-майстэрня Уладзіміра Наумюка (Канюкі, 82, гміна Заблудаў), хата і стадола Надзеі Кочук (Наваслёкі, 7, гміна Мілейчычы), хата Енджэя Алькевіча (Сівікі, 18, гміна Збуйна), хата Ірэны Кравэль (Вэсалова, 12, гміна Дуброва-Беластоцкая). Вылучаны наступныя будынкі: хата Яўгена Данілюка (Целушкі, 4, гміна Заблудаў), хата і стадола Міхала Галэцкага (Грабова, 33, гміна Дуброва-Беластоцкая), хата Лены Наумюк (Лянева, 16, гміна Чыжы), будынак былога вакзала Яўгена Астапчука (Нараўка, вул. Аграднова, 28), хата Малгажаты Гурскай (Нова Весь, 133, хутар Карчак, гміна Трысцяное), хата Яна Харытанюка (Паўлы, 87, гміна Заблудаў), хата Багуслава Марка Кузьмы (Парэмбы, 15, гміна Мельнік), хата Анатоля Матуевіча (Рагачы, 89, гміна Мілейчычы), ветрак Юрыя Місеюка (Ступнікі, гміна Бельск), хата Марыі Тваро́ўскай (Тваргі-Ляцкія, 41, гміна Перляева), хата Феадосія Рыжынскага (Войшкі, 88, гміна Юхновец-Касцельны).

— Наш дом, — расказвае Геня Раманюк, — пабудаваны каля 1920 года, пасля вяртання бацькоў майго мужа з бежанства. Ад часу пабудовы не рабілі мы там больших рамонтаў. Стаіць ён шчытом да дарогі (на Целушкі). Падмурак ляжыць на палявым камені. Сцены складзены на зруб, вуглы абабітыя дошкамі, пры вокнах замацаваныя плыцінавыя аканіцы. Двухскатны дах крыты цэментавай дахоўкай. У хаце вялікая ізба, кухня, сені і камора. У кухні стаіць цагляная беленая печка з каптуром над жалезнай плітой. Гліняная таксама сцяноўка паміж кухняй і пакоем. Паміж печкай і сцяной ляжаць дашчаныя палаці, памост, які калісьці быў ложкам: на палацях раскладвалі сяннік. Столь у кухні і пакоі з дошак „на накладку". У пакоі і кухні падлога з дошак, у сенях — гліняны ток. Засталося ў нас у хаце шмат рэчаў даўніны ў пару дзесяткаў гадоў, напрыклад, бондачкі, капанькі, лапата да хлеба, вілкі да гаршкоў. У сенях за дзвярыма стаяць жорны ў скрынцы. Мэбля таксама тут старая, між іншым стаіць тут куфар, аздоблены ў раслінны ўзор. На сценах вісяць гафтаваныя макаткі, ручнікі, ложак і лавы накрытыя тканымі рудзюжкамі. Маю тут таксама рукадзелле маёй мамы (яна з Раенскага прыхода). Плануем у гэтай хатцы ў будучыні зрабіць агракватэру.

— Наш вятрак заняў другое месца, — рады Васіль Івацік. — Ён галандскага тыпу і можна ў ім і цяпер малоць. Верціцца ў ім толькі верхняя частка, з крыламі. Высокі на 12 метраў, у тры паверхі. Двухскатны дах крыты гонтай. Знізу маем сталярскую майстэрню. У ветраку захавана камплектнае абсталяванне для пераносу сілы з прапелера на жорнавыя камяні і для памолу збожжа, але і для пуску ў рух сталярных прылад. Працаваў нармальна да 1972 года. Цяпер ён пасля генеральнага рамонту.

Адной з больших праблем у час ацэнкі журы аб'ектаў з'яўляецца ўплыў рамонтаў, якія паўплывалі на іх помнікавыя каштоўнасці. На жаль, здараецца так, што абменьваецца ў іх амаль усе канструкцыйныя элементы, то-бок, падмурак, прыбіваецца новая шалёўка, мяняецца дах і цяслярства, не захоўваюцца старыя печы, мэбля. Такія аб'екты, хаця ўласнікі вельмі стараліся, страцілі свае помнікавыя перавагі і не могуць быць узорам для адаптацыі помнікавых будынкаў да сучасных жыллёвых стандартаў. Дзякуючы конкурсу на найлепш захаваны помнік драўлянай архітэктуры папраўляецца таксама свядомасць уласнікаў драўляных будынкаў. Ёсць яшчэ што захаваць для памяці пакаленняў!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Хто грукае, таму адкрываюць...

У палове ліпеня пазваніў мне дарадчык фірмы „Польская тэлекамунікацыя” (ПТ) і прапанаваў заключыць страхавую дамову для абанентаў ПТ ад няшчасных выпадкаў „Бяспечны рахунак”. Не стану прыводзіць сцэнарыя размовы. Фактам засталося, што я пагадзіўся на страхавы поліс пад умовай, што будуць мне прад’яўлены на паперы дакументы для подпісу. Суразмоўца сказаў, што размова будзе запісана, а месячная стаўка страхоўкі 12 зл. будзе прыпісана да майго інтэрнэтавага рахунку. «Страхаванне пачнецца ад 26 жніўня», — заявіў у канцы суразмоўца.

Чакаў я два тыдні на дасылку дакументаў. Надарэмна. Затым здзівіўся, калі атрымаў рахунак за інтэрнэт за жнівень з прыпісанай сумай 12 зл. Яшчэ больш узбударажыла мяне тое, што на рахунку дата пачатку страхоўкі была памечана не ад 26 жніўня, як гаварыў дарадчык, але ад 1 жніўня. І пачалася валакіта. Паслаў я па электроннай пошце заяўку, што не стану плаціць страховачнай стаўкі, пакуль не прад’явяць мне дакументаў на паперы. 27 жніўня атрымаў я статут і правілы згаданага поліса. Аказалася, што дарадчык падвёў мяне пад дурнога хату. Кампенсацыю за панесены ўрон на здароўі ў выпадку аварыі я не змагу патрабаваць, бо гэта толькі магчымае для сямейнікаў пасля маёй смерці. Я адмовіўся ад такой страхоўкі. Два месяцы цягнулася справа. За неаплачаны рахунак палічылі мне працэнты. На дасланую рэкламацыю фірма „Орандж” у службовым пісьме ад 24 верасня пісала: „Informuję, że dysponujemy nagraniem rozmowy telefonicznej z naszym doradcą z 16 lipca 2013 r. Zaakceptował Pan wszystkie wymagane oświadczenia w celu przystąpienia do oferty ubezpieczeniowej „Bezpieczny Rachunek” i tym samym została zawarta umowa. Nadmieniam, że uzgodnienia zawarte w trakcie rozmowy zostały przedstawione w sposób prawidłowy. Mając na uwadze powyższe wyjaśnienie nie mogę uznać reklamacji i anulować naliczonych opłat”.

І з гэтым рашэннем я не пагадзіўся. Паслаў я адмову да заступніка кліентаў „Орандж” з адначасовым патрабаваннем даслаць мне копію запісанай па тэлефоне размовы з дарадчыкам. Дыск DVD, разумеецца, не прыслалі, але дарадчык па справах індывідуальнага кліента ў пісьме ад 17 кастрычніка інфармаваў, што прад’яўленыя закіды ў рэкламацыі абгрунтаваны і адмяняюцца раней налічаныя страховачны стаўкі за жнівень і верасень, таксама будзе вернута памылкова налічаная сума за „тэлефоннае далучэнне”. Разам вярнулі 65,91 зл. Такім чынам я дабіўся справядлівасці. Варта было пахадайнічаць, бо для пенсіянера гэта таксама грошы.

Абагульняючы вышэйсказанае, хачу асцерагчы гэтым допісам чытачоў: не давайце звесціся, даражэнькія, рознага віду махлярам і прайдзісветам, якія рэкамендуюць заключаць дамовы па тэлефоне. А калі ўжо прыйдзецца выступаць у абарону сваіх правоў у слушнай справе, дык не апускайце рук пры першай адмове. Дабівайцеся далей. Народная мудрасць напамінае: хто грукае, таму адкрываюць. Варта аб гэтым памятаць.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Люблін: будаванне культурных сетак (2)



Злева: вядучыя Галерэі „Ў” Анна Чыстасерадава і Валянціна Кісялёва ды Анна Ражанцава з „Ля Мора”

**Платформа адкрытага грамадства Усходняга партнёрства для культуры (НАТАША) — так назвалі ў Любліне ў час ІІ Кангрэса культуры Усходняга партнёрства неафіцыйную ініцыятыву, у якой будуць згуртаваны людзі культуры і стваральнікі трансгранічных праектаў з краін ЕС і Партнёрства (Азербайджан, Арменія, Беларусь, Грузія, Малдова, Украіна). Была яна створана таму, што — як сцвердзілі ўдзельнікі Кангрэса — да гэтага часу няма ні адной прадстаўнічай арганізацыі, якая яднала б мастакоў, прадстаўляючых культуру краін Усходняй Еўропы, якая давала б змест культурнаму вымярэнню Усходняга партнёрства. Ініцыятыва будзе накіравана на «развіццё супрацоўніцтва па-над шэнгенскай мяжой і інспіраванне стварання аўтаномных прастор для культуры».**

Аб ІІ Кангрэсе культуры УП (4-6 кастрычніка), які скончыўся спасылкай на еўрапейскую салідарнасць па-над шэнгенскай мяжой і за два месяцы да палітычнага саміту УП у Вільні мы пісалі на мінулым тыдні ў «Ніве». Люблін прымаў больш за 300 мастакоў, менеджараў і аніматараў культуры, прадстаўнікоў міністэрстваў, органаў мясцовага самакіравання, няўрадавых арганізацый, навуковых колаў і сродкаў масавай інфармацыі. Удзельнікі кангрэса вырашылі ўзяць голас у бягучай дыскусіі на тэму новага апісання Еўропы. Нарады краналі тэмы: «Культура сацыяльна ангажаваная», «Культура і новыя тэхналогіі», «Культура для развіцця», «Новыя кампетэнцыі для культуры» і «Культура і самабытнасць». Шматразова падчас кангрэсных сустрэч і дэбатаў вярталіся пытанні аб ролі культуры ў сучасным свеце, з улікам працэсаў глабалізацыі, і ў той жа час поўным неперакладальных лакальнасцей. Нягледзячы на разнароднасць тэм кангрэса, агульнай кропкай стала пытанне аб культуры як «мяккай сіле», часта нябачнай і недацэненай, з вялікім грамадскім патэнцыялам, дапаможнай у надзвычайных сітуацыях і праблемах камунікацыі. Гучалі думкі, што культура патрапіць спалучаць не толькі геаграфічна і ментальна аддаленыя рэгіёны, але і ідэалогіі, у тым ліку супраціўныя, пагражаючыя канфліктамі. Падчас круглага стала пад лозунгам-пытаннем «Што Еўропа значыць для нас», старшыня Праграмнай рады Кангрэса, кіраўнік сейненскага цэнтра і фонду «Пагранічча» Кшыштаф Чыжэўскі, у якасці мадэратара дыскусіі, спытаўся, ці за апошнія дваццаць гадоў постсавецкай трансфармацыі пачуццё ідэнтычнасці ў краінах-удзельніцах Усходняга партнёрства змянілася. Ірына Магдыш, культурны аніматар з Львова:

— Незалежнасць пасля распаду Савецкага Саюза на Украіну ўпала зверху (...). Паглыбляючуюся фрустрацыю на Украіне, пасля расчаравання, якое наступіла пасля аранжавай рэвалюцыі, пагоршыла сітуацыя ў Грузіі. Прыйшло працвераджэнне. Ні адна рэформа, навязваная штучна, без глыбокай змены ў тым, як людзі думаюць, неэфектыўная. Рэформы ў Грузіі не прыцягнулі людзей, не хочуць яны плаціць за іх. Лепшым спосабам змянення менталітэту народа з’яўляецца культура. Еўропа дае ўкраінцам дэмакратычныя стандарты, устойлівае развіццё і г.д. З іншага, аднак, боку, Еўропа сёння дзіўнае тварэнне: няроўнасці, несправядлівасці, двайных-трайных стандартаў.

Падкрэсліла:

— Аснова новай Еўропы заключаецца ў эканоміцы, а там няма роўных. Гаспадарка ніколі не створыць салідарнасці, але канкурэнцыю. Пазіцыя просячага ў Еўропе дапамогі няміла вітаецца. Эканоміка не можа быць асновай для пабудовы размовы паміж роўнымі. Культуры няма горшай і лепшай. Чым больш адрозніваецца ад культуры суседа, тым яна больш цікавая. Гэта яна магла б стаць асновай для будаўніцтва новай ідэнтычнасці, даць шанц для еўрапейскай салідарнасці.

Андрэй Хадановіч, паэт, перакладчык, прэзідэнт Беларускага ПЭН-Цэнтра:

— Большасць беларусаў глядзіць на Еўропу ў спажывецкі спосаб. Акропаль для іх сёння з’яўляецца гіпермаркетам у Вільні. Шэнген гэта для беларусаў нонканфармізм: паехаць у еўрапейскі горад і пайсці там у гіпермаркет або бутык, таму што танней і такім чынам паказаць Лукашэнку сярэдні палец. Наведванне IKEA ў Мінску таксама практыкаванне нонканфармізму, таму што самі беларусы там пытаюцца: чаму ў нас такая вялікая мэбля, а такія невялікія кватэры. У сваю чаргу наш прэзідэнт кажа афарыстычна: «Беларускі народ будзе жыць дрэнна, але нядоўга».

Адной з удзельніц гэтай дыскусіі была Ганна Ражанцова, менеджарка культуры, якая вядзе незалежны мінскі дом культуры «Ля Мора», вядучы ўсебаковыя культурныя мерапрыемствы не фінансаваныя афіцыйнымі ўладамі, які знаходзіцца ў драўляным будынку (у цяперашні час прызначаным на знос), у лабірынце прыватнай, сучаснай забудовы непадалёк ад самога цэнтра:

— Наша дзейнасць з’яўляецца свайго роду пратэстам супраць адсутнасці ў Мінску натуральнай культурнай прасторы. Мы таксама кажам, што мы маем права на абарону сваёй прасторы. Да нашых праектаў не ўдаецца ўключыць цэлых абшчын, прыходзяць у асноўным дзеці. Калі мы пачалі дзейнасць, мясцовыя жыхары думалі, што мы секта, ці, мабыць, хочам пратэставаць. Найперш з’явіліся п’яніцы, а затым дзеці. Бацькі трохі баяліся, але з часам яны пачалі прывыкаць.

Мінскі дом культуры «Ля Мора» — гэта бясплатны клуб для ўсіх, пляцоўка адкрытая для свабодных зносін і творчасці розных людзей, месца, дзе людзі могуць знаёміцца, ствараць нешта новае, дзяліцца сваімі ведамі і набываць новыя, месца для тых, хто хоча пашыраць свае гарызонты. Маюць тут месца выставы (жывапіс, фатаграфія, графіка, скульптура) кінапаказы, майстар-класы, літаратурныя праекты, тэматычныя клубы, адкрытыя лекцыі, тэатральныя пастаноўкі. Ганна Ражанцова:

— Праект рэалізуем два з паловай года. Прыйшлі мы да высновы, што мы можам не толькі звярнуцца да маладых людзей, якія ў гэтым зацікаўлены, але і да тых, хто ніколі не ўдзельнічаў у культурных праектах, што можаце паспрабаваць у гэты спосаб вырашаць, напрыклад, сацыяльныя праблемы самастойна. Узнікла ў нас свайго роду адукацыйная місія, прытым у адносінах да людзей любога сацыяльнага статусу, прафесіі, кожнага, хто жыве ў Мінску. Хочам у «Ля Мора» стварыць адукацыйны цэнтр, які памагаў бы кожнаму развіваць свае здольнасці і інтарэсы.

Падкрэсліа прытым:

— Людзі ў постсавецкіх краінах прывыклі, што любыя мерапрыемствы прыходзяць зверху, а не арганізаваны яны знізу звычайнымі людзьмі проста так. Яны не прывыклі, што можна арганізаваць вечарыну па сваіх уласных патрэбах, прытым без грошай. Людзі ў нас баяцца таксама пачынаць штонебудзь, бо невядома, якія могуць быць наступствы. Таму і баяцца падобных ініцыятыў. Такога роду дзейнасцю займаюцца ў асноўным маладыя людзі. Старэйшыя разглядаюць гэта як нешта несур’ёзнае або думаюць: а што, калі гэта нешта апазіцыйнае або рэвалюцыйнае, што можа парушыць існуючы парадак рэчаў, у якіх яны жывуць. Акрамя таго, у постсавецкіх краінах існуе недавер да іншага чалавека. Душэўна гаварылі на кухні, але не было ніякага выйсця з гэтых праблем у больш шырокія масы. Культура разглядалася як нешта дысідэнцкае, андэграўнднае.

У сваю чаргу ўдзельніца гэтай часткі Кангрэса, вядомая чытачам «Нівы» Ганна Кісялёва, кіраўнік мінскай галерэі «Ў» адзначыла, спасылаючыся на яе дзейнасць:

— Беларускі мастак не стварае наўпрост сваіх палітычных заяў. Мы сканцэнтраваны на дыскусійных мерапрыемствах. Улада, нават на ўзроўні рэктара Акадэміі мастацтваў, ігнаруе нас. Рэктар ніколі не быў у галерэі «Ў».

Надалей адным з флагманскіх дзеянняў галерэі «Ў» з’яўляецца «Мова ці-кава», урокі беларускай мовы, на якія прыходзіць усё больш людзей.

Пры нагодзе кангрэса адбыліся таксама прэзентацыі, найчасцей альтэрнатыўных для большасці афіцыйных мерапрыемстваў, культурных праектаў, што рэалізуюцца ў краінах Усходняга партнёрства. Маргарыта Корзун расказала пра «Мінскі форум вулічных тэатраў», які ў адзін вераснёвы уік-энд адбыўся з удзелам мастакоў з Беларусі, Украіны і Расіі. Сем тысяч чалавек глядзелі прадстаўленні з узелам лялькаводаў, клоўнаў, хадулякоў і да г.п. Не паявіліся тут вулічныя тэатры, якія кранаюць важныя сацыяльныя і палітычныя пытанні. У наступным годзе Форум будзе праходзіць чатыры дні і з большым размахам. У размове з «Нівай» Маргарыта Корзун сказала:

— Каб у Мінску адбылося публічнае мерапрыемства, трэба атрымаць дазвол. Вялікай перавагай Форуму ў гэтым кантэксце было тое, што мы атрымалі дазвол на цэлую падзею, і нам не трэба было хадайнічаць за яго кожны выступ. Падчас Форуму тэатры прадстаўлялі розныя тэмы, у тым ліку вострыя сацыяльныя пытанні. Вядома, не было там прапаганды «ў лоб».

Удзельніца Кангрэса Аксана Гайко, з тэатра «Крылы халопа» ў Брэсце, які займаецца вулічным тэатрам, сказала нам пра Форум:

— Увесь фестываль меў выключна забаўляльны характар. Зрабілі гэты фестываль на канец адкрыцця на лета вуліцы Карла Маркса. Я сумняваюся, каб там можна было паказваць сур’ёзныя па тэме вулічныя спектаклі. У Беларусі практычна няма вулічнага тэатра.

Кангрэс «Культура для Усходняга партнёрства» быў падрыхтаваны Фондам «Транс Культура», Семінарамі культуры ў Любліне і горадам Люблінам, пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў і Нацыянальнага цэнтра культуры. Як мы ўжо згадвалі, кангрэс суправаджаўся фестывалем «Усход культуры. Інтэграцыі-медыяцыі». У яго рамках у люблінскіх установах культуры і ў пленэры горада прэзентаваліся працы 250 мастакоў у больш чым 40 трансгранічных праектах, спалучаных агульнай тэмай культуры як мовы зносін праз межы. Гаспадаром падзей кангрэса быў Цэнтр культуры ў Любліне.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Дзень сеніёра





Арганізатарам цыклічнай імпрэзы «Дзень сеніёра», якая праходзіла сёлета 27 кастрычніка ў Чаромсе, быў Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі і мясцовы цэнтр культуры. У мерапрыемстве ўдзельнічала некалькі дзесяткаў гасцей са станцыі Чаромхі і суседніх сёлаў: Чаромхі, Ставішчаў, Вулькі-Тэрахоўскай, Кузавы, Баброўкі ды Пагулянкі. Ганаровых гасцей, а былі імі святары з Чаромхі а. Мікалай Беламызы і Зубач а. Рыгор Астапковіч, былы і цяперашні старшыні Раённай арганізацыі Саюза польскіх пенсіянераў Юзаф Дубковіч і Раман Туркевіч, старшыня Рады гміны Надзея Суліма, сакратар Гміннай управы Марыя Іванюк і кіраўнік ГАСД Марыя Зіневіч, прывітаў войт Юры Шыкула. Узяўшы слова войт сказаў: «Кепска затраціць моладасць, а зусім блага згубіць старасць». Затым прывёў словы ксяндза Яна Твардоўскага: «Старасць, гэта не час на нарачкі і адзіноцтва». — «Адзінокімі сапраўды станем тады, калі самі адыдзем ад людзей». Іншы мудрэц, — канстатаваў прамоўца, — пісаў: «Цяжар гадоў лягчэйшы таму, хто адчувае сябе паважаным і любімы іншымі». Папа рымскі Ян Павел II заклікаў урады дзяржаў у сусветным маштабе, каб у сваёй дзейнасці выходзілі насустрач спадзяванням сеніёраў, пенсіянераў і інвалідаў, каб акружылі іх пашанай і забяспечылі належнымі бытавымі ўмовамі жыцця. Дзеля таго Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі штогод арганізуе Дзень сеніёра. Гэта падзяка людзям, якія нарадзіліся ў мінулым стагоддзі, за цяжкую работу выканаўную ў ходзе гадоў дзеля выхавання новага пакалення.

У заканчэнні войт Ежы Шыкула павіншаваў сеніёраў з нагоды іхняга свята і жадаў моцнага здароўя, душэўнага спакою і самых сонечных дзён у дажыванні старасці. Затым з віншаваннямі выступілі Раман Туркевіч, Надзея Суліма і а. Мікалай Беламызы. Да гэтых віншаванняў музыканты зайгралі традыцыйнае «Сто лят» і «Многае лета». Перад пачастункам прысутныя згаварылі малітву. У дружнай і сяброўскай кампаніі праходзіла святочнае застолле. Сталы былі багата застаўлены бутэрбродамі, напіткамі, салодкасцямі і фруктамі. Прытым удзельнікі забяспечыліся дамашнімі вырабамі і «чымсьці мацнейшым для духа». А да танца падыгрываў музычны гурт «Ве-Нарру». Калі сціхала музыка, пачыналіся песні. Варта адзначыць, што напевы мяняліся як у калейдаскопе — беларуская з польскімі, сучасныя з даўнейшымі і... тутэйшымі: «Каласілась ў полі рож густая» ці «Гэй, саколы» ды іншыя. Я пакідаў вясёлую кампанію на адвячорку ў поўным разгары забавы, пакарыстаўшыся ветлівасцю і транспартам малодшай аднавяскоўкі Валі Раманчук. А гасцей пазней адвозілі ў адлеглыя вёскі гмінным аўтобусам. Арганізатарам за ветлівасць і пачастунак ад сеніёраў належыцца сардэчнае «дзякуй».

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## СПАЧУВАННІ

Найбольшае гора для чалавека — гэта страта Маці, самай блізкай асобы на сьвеце. Гэтае гора закранула прафэсара Ніну Баршчэўскую — кіраўніка Беларускай службы Польскага радыё, кіраўніка Катэдры беларусістыкі Варшаўскага ўнівэрсытэту.

Дарагая Ніна! Мы вельмі ўзрушаны стратай Блізкага для Цябе Чалавека й глыбока разьдзяляем Твой смутак і сьлёзы. Мы б хацелі знайсьці словы, каб хоць неяк аблегчыць Твой боль, але цяжка ўявіць, што ўвогуле існуюць такія словы.

**Калектыў журналістаў Беларускай службы Польскага радыё**





## Сустрэча са співанай паэзіяй

24 кастрычніка г.г. у Нараўцы адбылася сустрэча са співанай паэзіяй у рамках Фестывалю беларускай співанай паэзіі „Бардаўская восень”. Выступілі паэтэса Надзея Артымовіч і бард Алег Кабзар — абое з Бельска-Падляшскага.

Надзея Артымовіч чытала свае вершы: „Паэты паміраюць тады...”, „Ёсць такая пара перад ад’ездам”, „Час з табою плыве прырыты блакітам”, „Ёсць тое ў штодзённым слове”, „Уцякаю ад вострай лагоднасці дня”, „Даспеў агонь”, „На гарызонце плыве твая бель”, „Задуменне маёй зямлі глыбокае” і „Бераг”. Пасля кожнага прачытанага верша, Алег Кабзар співаў іх словы пад прыдуманую сабой музыку. Але як співаў! Усіх захапіў сваёй музыкай.

Бельская паэтэса і бард выступілі перад нараўчанскай публікай упершыню. Цікавая была гэтая сустрэча са співанай паэзіяй. Былі на ёй не толькі жыхары Нараўкі, але і Новага Ляўкова, і Лешукоў.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

1 ☞ працяг

акардэон. — Я тры разы выступіў у час фестывалю. Пасля стаў займацца фальклорам, але ахвотна прыходзіў на канцэрты нават тады, калі выканаўцы пачалі выступаць з іншай музыкай.

Гурт «Белы сон» (Марта Драль і Ян Хоха) запрэзентаваўся вельмі эмацыянальна з песнямі на словы нашых паэтаў. Спевакі звярнулі ўвагу на вельмі цёплы прыём і добрую атмасферу ў час канцэрта. Вельмі добра публіка ўспрыняла Альжбету Бэзюк.

— У час беларускіх рэйдаў бывала, што я співала пад гітару ад восьмай гадзіны вечара да чацвёртай раніцы. Называлі мяне першым беларускім бардам у Польшчы. Пасля быў выступ на сцэне «Бардаўскай восені». Співаючы сёння на сцэне я ўспамінамі вярталася ў тыя гады, — сказала Альжбета Бэзюк.

— Сёння мы рады, што святкуем дваццатую гадавіну «Бардаўскай восені». Мы пашырылі кола нашых слухачоў. Выступы нашых выканаўцаў транслююцца па Радыё «Рацыя» і Радыё Беласток. Першыя фестывалі мелі своеасаблівы клімат, атмасфера ад пачатку была вельмі сяброўскай. «Бардаўская восень» увесь час развівалася, мяняліся спевакі, на сцэне паяўляліся новыя гурты. Сёння вяртаемся ўспамінамі да вытокаў «Бардаўскай восені». Выступаюць творцы, якія стварылі атмасферу фестывалю. У час канцэрта «Новыя плыні» выступяць выканаўцы, якія паказаліся шырэйшай публіцы ў апошнія дзесяць гадоў фестывалю, — заявіў старшыня Звязу «Шчыты» Ігар Лукашук.

Падчас канцэрта «Новыя плыні» выступілі Яўген Барышнікаў, Тамаш Суліма і калектывы «Re1ikt», «Гэліса», «Нельга забыць» і «Босае сонца». Моцным момантам канцэрта сталі Зміцер Вайцюшкевіч і «WZ Orkiestra». У БДК прэзентавалася таксама рэтраспектыўная фотавыстава.

У доме культуры публіку віталі бельскія бельлііцэістыя, якія прадавалі кружэлкі з музыкай выканаўцаў «Бардаўскай восені» і займаліся пачастункам. Прыбылі з імі іх настаўнікі. Апякун Клуба польска-беларускіх справаў Уладзімір Вавульскі успамінаў пра актыўнасць белліцэістаў у час фестываляў у мінулых гадах. Звярнуў ён увагу на гайнаўскіх белліцэістаў, якія на аўтобусах прыязджалі на канцэрты.

У нядзелю (27 кастрычніка) «Бардаўская восень» пераехала ў Беласток, у Падляшскую оперу і філармонію — Еўрапейскі цэнтр мастацтва, дзе ў час адмысловага канцэрта запрэзентаваліся Алесь Камоцкі, Паліна Рэспубліка, «Белы сон», а таксама «ILO&friends». Ужо з 24 кастрычніка (чацвер) пачаліся суправаджальныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да юбілею. У гэты дзень у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы выступілі Кася Камоцкая і гурт «Re1ikt», у Галерэі Тамары Саланевіч у Нараўцы свой музычна-паэтычны праект запрэзентавалі Алег Кабзар і Надзея Артымовіч, а ў Гміннай публічнай бібліятэцы ў Нарве выступіў Зміцер Вайцюшкевіч. У Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку ў пятніцу выступіў гурт «Нельга забыць», у Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах-Дзенцялове ў суботу адбылася дыскусія, прысвечаная «Бардаўскай восені», якую суправаджалі ўспаміны першых арганізатараў і ўдзельнікаў фестывалю.

**Аляксей МАРОЗ**

## На дарозе № 687

Небяспечна зараз ехаць па ваяводскай дарозе № 687 з Юшкавага Груда ў Навасады цераз Нараўку. Здаўна не рамантавалі маставой на адрэзку гэтага шляху ад Новага Ляўкова ў Плянту. Сёлета ўсяго толькі крыху „залаталі” ўхабіны.

Па гэтай дарозе ездзяць вялікія грузавікі і робяць трэшчыны ў старым асфальтавым палатне. Мала таго — у гарачую пару года на маставой парабілі яны равы. Пасля дажджу ў іх стаіць вада. На няроўную маставую гэтай дарогі наракаюць вадзіцелі легкавых аўтамашын, мапедаў і веласіпедысты.

Зараз у месцах, дзе „латалі” дзіркі ў асфальце, нанава ўтварыліся ямы. Не ўсюды ўбітыя нагою мяшочкі з бітумічнай масай у г.зв. дзіркі зраўняліся пад коламі аўтамашын з паверхняй палатна. Парабіліся гарбы і толькі.

Вось што робіцца, калі хто едзе веласіпедам. Калі ланцуг не туга напяты, ён на ўхабінах злятае з зубчатага кола. Нярэдка ланцуг ломіць шпрыхі, а тады задняе вялікае кола рэзка тармазіць і зусім непрадбачана можна зляцець з ровара ў роў. Гэтак вельмі часта здараецца. Пацемку на адрэзку ваяводскай дарогі з Новага Ляўкова ў Плянту лепш не ехаць на веласіпедзе. Можаш ехаць нават вельмі ўважна, але не асцерагаэшся перад тым, каб не ўляцець у глыбокія дзіркі, бо яны адна побач другой і нідзе не дзенешся.

Ужо доўгі час небяспечна стала пераязджаць цераз чыгуначны пуць у лесе перад Пераходамі. Тут патрушчанае асфальтавае палатно перад і за пераездам.

Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку ведае пра дрэнную маставую на дарозе № 687, але ўсё з году ў год адцягвае рамонт. Нііўскі карэспандэнт быў з гэтай справай у намесніка дырэктара адказнага за дарогі. Пасля ягонага візіту, дзіркі ў маставой акуратна „залаталі”. Абяцаная дырэктарам г.зв. вылеўка на 1,5-кіламетровым найгоршым адрэзку дагэтуль не атрымалася. А аграмадныя аўтафуры да восені зноў зруйнавалі дарогу. Яна не дастасаваная да таго, каб па ёй адбываўся рух такіх грузавікоў.

ППВД высылае адказы, што не мае грошай ды гадамі збывае нічым патрабаванні радных Нараўчанскай гміны. У заходнім накірунку ад Беластока ўжо такіх дрэнных дарог няма. Чым жыхары гарадоў і вёсак на г.зв. усходняй сцяне горшыя ад тых на заходнім баку ад сталіцы Падляшскага ваяводства? Сюды ўжо і аўтобусы ПКС не хочуць ездзіць, між іншым, з-за дрэнных дарог. Ужо колькі гадоў перавозчык пасажыраў шкадуе пускаць сюдою лепшыя аўтобусы, каб яны не растрасаліся на ўхабінах і не прыходзілася іх рамантаваць.

Прыватная фірма „Voyager” з Беластока таксама адмовілася высылаць свае аўтобусы ў Міхалова і Нараўку. Адмоўна адказала на нядаўнюю прапанову войта Нараўчанскай гміны.

А зараз з Гайнаўкі ў Беласток цераз Нараўку і Міхалова — ад панядзелка да пятніцы — раніцай едзе ўсяго адзін аўтобус ПКС (з Гайнаўкі ён выязджае а гадзіне 6) ды назад ад’язджае з Беластока а гадзіне 15.10. І гэта ўсё! У суботы і ў нядзелі ніводзін не ездзіць! Мабыць таму, што няма каго вазіць. Можа школьнікаў? Ды няшмат іх ездзіць з Нараўкі ды Новага Ляўкова і Старога Ляўкова ў сярэднюю школу ў Міхалове ці ў вышэйшыя ўстановы ў Беластоку. Спрычыніўся да гэтага дэмаграфічны ніж.

Але студэнтам няма як з’ездзіць дадому ў выхадныя дні. Працаздольная старэйшая моладзь выехала з прыгранічных беларускіх вёсак у пошуках працы ў самыя розныя замежныя краіны: Вялікабрытанію, Бельгію, Францыю, Італію, Швецыю, Канаду і ў ЗША. І там пражывае. А ў нас адкуль узяць большую колькасць пасажыраў?

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка для дзяцей і моладзі

# Малпы (2)

*(пачатак у папярэднім нумары)*

— Ну, вось, няма бацькоў. Шкада! Але што зробіш? Не будзем сумаваць і плакаць! — сказала Габі.

— А я хачу быць з мамай і татам, — не пагаджалася Віка.

Малпяняты пачалі шукаць сваіх бацькоў. Яны заглядалі ва ўсе лясныя закуткі, гукалі па лесе. Ніхто не адзываўся. Габі і Віка ўспомнілі, што заўтра Каляды. І, нягледзячы на сум, яны пачалі рыхтаваць стравы: агурочкі проста з бочкі, пірагі з капустай і грыбамі, хлеб, аўсяны кісель, боршч, рыбу і бананы з мёдам. Пасля працы Віка сказала:

— Ну, падрыхтаваліся як людзі. Усё ёсць! Можам накрыць стол абрусам і чакаць першай зоркі. Ды яшчэ бацькоў пашукаем, як жа без іх сесці за калядны стол...

— Ох, Віка! Гэта класная думка, — згадзілася сястра.

Нашыя малпы дабраліся ў горад і трапілі ў заапарк. Яны былі ўжо ля брамы. Але іх не хацелі ўпусціць. Трэба было паказаць білет.

— І што цяпер будзе? — засумавала Віка.

— У мяне добрая задума, — сказала Габі. Яна нешта нашаптала сястры на вуха. Дзяўчаты пабеглі да лавачкі, дзе стаялі боты, ляжала шапка і плашч. У кішэні плашча яны знайшлі 10 000 рублёў...

Пасля Віка ўскараскалася на плечы сястры, і яны ў выглядзе адной асобы ў плашчы падышлі да касы. Без ніякіх праблем яны набылі білет і апынуліся ў заапарку. Тады Віка саскочыла з плячэй Габі, распранулася з людской адзежы і пабеглі шукаць бацькоў. Яны хуценька адшукалі іх клетку.

— Хутчэй! Няма часу на паясненні! — сказала Габі, адчыняючы клетку.

— У хаце ўсё раскажам, — дадала Віка.

Сямейка, не аглядаючыся, дала драла. Спачатку за імі ў пагоню кінуўся сторож заапарка. Але гэта быў стары чалавек і яму не хацелася бегчы. У палове дарогі ён махнуў рукой.

А нашай сямейцы пашчасціла ўцячы ў свой лес. Яны ўсе селі за святочны стол і пачалі расказваць як прыдумалі ўвесь план. На небе загарэлася першая зорка. Яна, здавалася, падміргвала шчаслівай сямейцы. А лес напяваў ім беларускія калядкі.

**Вераніка Кардзюкевіч,**
*пяты клас НШ імя свв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*






# Усе дарогі вядуць у „Зорку”

Як цікава і карысна правесці ўрок беларускай мовы?

У нашым асяроддзі пайшла мода, каб наведаць беларускія рэдакцыі ў сталіцы Падляшша. На мінулым тыдні нас наведалі аж чатыры групы дзяцей і моладзі. На пачатку тыдня мы сустракалі вясёлых трэцякласнікаў з Нарвы. А ў пятніцу, да нас завіталі ліцэісты з Бельска, а пасля іх прыехала моладзь з Гарадка. О, гэтая сустрэча была незабыўнай! Яны прыехалі спецыяльна ў Беласток, каб на свае вочы пабачыць дзе ўзнікае „Ніва” і як ладзяцца беларускія перадачы на Радыё Рацыя.

Для некаторых гімназістаў гэтая паездка была важнай. Вось Патрыцыя Карлаў, якая ўжо некалькі гадоў сябруе з газетай, спецыяльна апранула кашульку з эмблемай „Басовішча”. І калі трэба было адказаць на пытанне (вядома — па-беларуску) яна выручала сяброў. У Гарадку невялікая колькасць навучэнцаў беларускай мовы. Затое гэта найлепшыя вучні. Нам падабалася іхняя засяроджанасць, з якой яны слухалі інфармацыю пра нашу газету, тэмы і аўтараў.

Здаецца, усе былі задаволены і ўзрушаны творчым спатканнем.

Пасля сустрэчы на фейсбуку наша рэдакцыйная сяброўка, паэтэса Міра Лукша (яна расказала пра літконкурс „Дэбют”) напісала: «Усе дарогі вядуць у „Зорку”».

У гэтым сцвярджэнні не было перабольшання. Вось разам з гімназістамі прыехала настаўніца Анна Курчук, якая раней прыязджала на Сустрэчы „Зоркі”.

Разам з моладдзю ў падарожжа адправілася таксама спадарыня Ганна Кандратовіч, працаўніца школьнай бібліятэкі. Яна распавядала моладзі пра цікавіны, звязаныя з гісторыяй Беластока. Магчыма, у будучыні дачакаемся беларускіх адукацыйных сцежак у сталіцы Падляшша. Пакуль нашыя сябры хадзілі сцежкай Людвіка Заменгофа. Якраз на яго вуліцы і наша рэдакцыя!

ЗОРКА

# Вершы Віктара Шведа

## Сонца патушыць не можна

Настаўнік вучняў пытае:
Скажыце, розніца якая
Між соненькам велічным
І лямпай электрычнай?

Думалі над гэтым дзеці:
Адно і другое свеціць.
Сказаў Янка ясцярожна:
— Сонца патушыць не можна.

## Хоча быць вучоным

— Скажы, чаму твой
брат Яўген
Сядзіць пад яблыняй
ўвесь дзень?
— Ён хоча слаўным
быць вучоным
Сцвердзіла сястра Івона.

Калі Ньютану наяву
Яблык упаў на галаву,
Адкрыў тады
ён без сумнення
Закон славуты прыцягнення.

# З бабулінай хаткай



Хатка бубулі Лены Наумюк стаіць пад нумарам 16 у Ляневе ў Чыжоўскай гміне. Вестка для тых, што схочуць наведаць яе асабліва ў трускалкавы сезон, але і каб паглядзець, як бабуля Лена захоўвае даўніну. Хатку і старанне ўласніцы ўдастоілі на ўсё Паляшша вылучэннем у конкурсе на найлепш захаваны будынак драўлянай архітэктуры. А памагаюць пільнаваць гэтую красу таксама яе ўнукі — Якуб і Мацвей з Беластока, вучні праваслаўнай школы імя апосталаў Слявяншчыны Кірылы і Мяфодзія. Прыехалі і яны з мамай Галінай у Цехановец у Музей сельскай гаспадаркі на ўручэнне ўзнагароды бабулі. Яны таксама вельмі рады ўшанаванню старанняў бабулі Лены. І чысценькай беларушчынай цешацца бабуліным поспехам. Усё ведаюць: хатку ставілі яшчэ бабуліны бацькі — Пятро і Ганна ды дзедкавы — Сяргей і Ольга, даўно — у 1935 годзе. Стаяць там дом, стадола, шпіхер, драўляныя. І хлопцы ведаюць пра ікону святога Міколы, якая, пасля доўгіх гадоў у каморцы вярнулася на сцяну хаты і... сама аднавілася!

Бабуля сваю хатку таксама аздобіла сваім рукадзеллем. Праўда, рукі ўжо не так працуюць, і вочы так ужо не бачаць... Але навучыўся ў яе рукадзеллю ўнучак — Мацвей, ужо гімназіст. Але, прызнаецца, найлепш яму пакуль ідзе вязанне шалікаў.

— Добрыя, паслухмяныя ў мяне ўнукі, — хваліць хлопцаў бабуля Лена. А хлопцы абяцаюць напісаць яшчэ ў „Зорку” пра сваю хатку, у якую так любяць прыязджаць. А пасля з вялікім хваляваннем зойдуць яшчэ ў апусцелую хатку-помнік дзеда паэта Міхася Шаховіча з Сакоў. Хлопцы зробяць здымкі, сядуць сцішана на палаці. Гэтая хатка тут, у скансэне, самотная: ніхто тут цяпер не жыве. Але Якуб і Мацвей учулі:

— Клікаў нас сюды яе дух!

**Міра ЛУКША**

Фота Ганны Кандрацюк



## АДКУЛЬ ЗАБЛУДАЎ?

*Паказваюць цяпер старыя людзі на тое места, дзе знаходзіцца Заблудаў, і расказваюць, якія тут былі калісьці вялікія лясы... Божа мой, хто б мог надумаць, што менавіта ў гэтых мясцінах, вакол Заблудава, дзе цяпер такія непраходныя балоты, сцяною стаяў цёмны лес!*

*Дзіўна, што яшчэ прадзед старога Нікадзіма расказваў нам пра тое, што тут вадзіліся мядзведзі. Недзе за агародамі, каля могілак, дзе і на сённяшні дзень стаіць яшчэ каля дзесяці хвоек, мядзведзіца вывела медзведзянят. У лесе і цяпер стаіць яшчэ адна сасна, якая завецца Мядзведжаю. Хоць ужо і зацягнула яе карою, аднак добра відаць, што да палавіны борць была вылуплена калісьці мядзведзем. А калі мядзведзь выглядаў ічол і дабіраўся да калоды з мёдам, то гэта сведчыць пра тое, што тут былі немалыя лясы, калі аж вывадзіліся мядзведзі.*

*У тых вялікіх лясах ездзіў сабе на паляванне нейкі князь. Доўга ён сноўдаўся на лесе, і ніяк не мог выбрацца. Адным словам, заблудзіўся. Стомлены, ён сеў нарэшце адпачыць і надсілкавацца на дубовым пні. На гэтым месцы і быў пасля пабудаваны Заблудаў, таму што заблудзіўся тут той князь і чуць выбраўся дахаты. Нават і ў архівах сказана, што места Заблудаў стаіць над рэчкаю Мелетына, а пабудавана на дубовым пні.*

*А яшчэ нядаўна, за нашай памяццю, быў у тым месцы замак і стаяў там, дзе цяпер двор. Другія людзі яшчэ помняць, як там жыў князь Радзівіл. Аднак палац яго ўжо даўно раскідалі...*

*Паводле Міколы Гайдука*

# Восень

Адзвінела вясёлае, зялёнае лета. А зараз на дрэвах іскрыстыя жоўта-чырвоныя вэлюмы. Дубы сыплюць лісце, як сцёртыя чырвонцы. Быццам хрушчы, падаюць на зямлю буйныя, спелыя жалуды.

Птушкі разляцеліся. Аціхлыя, апусцелыя палі заліў тужлівым курлыканнем жураўліны кліч. Агрубелая трава на лузе нібы павілася сівізной — скрозь усыпана белым павуціннем. Гараць жарынкамі ягады каліны.

З папялістых хмараў сыплецца дробны дождж. Шэрасць дня навявае сум. Сівее абветраны сад. Зямля пакрысе шэрхне ў холадзе. Трывожна шапаціць трысцё над халодна-шэрым люстрам ціхай ракі.

Прыйшла журботная восень...

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Польска-беларуская крыжаванка № 44

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклеенным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 40:

Варшава, ар, Опса, месяц, Ян, вяселле, на, паштоўка. Вяз, мята, лес, усе, ял, Вроцлаў, Ася, кран.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Оля Пугацэвіч з ПШ № 4 у Беластоку, Бартэк Місеюк, Дамініка Благушэўская з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Іаанна Болтрык, Паўліна Лаўнічук, Юлія Лясота з Нараўкі, Марта Вараньчук, Марыюш Красько з Арэшкава, Кацярына Лаўрашук з Бельска-Падляшскага, Агнешка Барановіч з Бабікаў. Віншуем!

Zupa, Pióro, Łany, Gęś, Koń, Literka, Wyspa, Pepek, Śpiewak, Ryś, Łoś, Ar, Rocznica, Mi

# 460 гадоў Праваслаўнаму прыходу ў Дубічах-Царкоўных

**За Праваслаўным прыходам у Дубічах-Царкоўных доўгая гісторыя, якую апісала матушка Ева Аўксецюк у альбомным выданні «Дубічы Царкоўныя. З гісторыі праваслаўнага прыхода», якое летам мінулага года трапіла ў рукі парафіян. Царкоўныя святкаванні, прымеркаваныя да 460-гадовага юбілею прыхода, адбыліся сёлета 12 ліпеня, у час свята ў гонар апосталаў Пятра і Паўла, у царкве Пакрова Божай Маці ў Дубічах. У гэты летні дзень мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава асвяціў крыж і мемарыяльную дошку, выкананыя спецыяльна пад юбілейнае святкаванне.**

Айцец Славамір служыць у Дубічах-Царкоўных з 1996 года. З гэтага часу царква Пакрова Божай Маці рамантавалася ўжо два разы. Апошні капітальны рамонт закончыўся ў 2006 годзе. У 2001 годзе быў асвечаны парафіяльны дом, перабудаваны ад асноў.

У канцы 2011 года ў Грабаўцы з дакладам аб гісторыі Дубіцкай зямлі выступіў перад вяскоўцамі гісторык Дарафей Фіёнік са Студзіводаў. Раней у Дубічах-Царкоўных быў зачытаны даклад прафесара Алега Латышонка з Універсітэта ў Беластоку аб укладзе ўраджэнцаў Дубіцкай зямлі ў беларускую справу. Матэрыялы пра Дубіцкі прыход сабраў і апублікаваў мітрафорны протаіерэй Рыгор Сасна. Майстар-класы з дубіцкімі вучнямі вяла ў пачатку мінулага года журналістка Радыё «Рацыя» Наталля Герасімюк, рыхтуючы іх да збірання матэрыялаў аб прыходзе ў час размоў з парафіянамі. Аднак самую вялікую работу выканала матушка Ева Аўксецюк, якая сабрала даступныя ёй гістарычныя матэрыялы і напісала магістарскую працу аб гісторыі Дубіцкага прыхода, якая, папоўненая выказваннямі мясцовых жыхароў і здымкамі, лягла ў аснову выдання «Дубічы Царкоўныя. З гісторыі праваслаўнага прыхода».

— Я, ад імя нашага прыхода, выканаў пад святкаванні вялікі драўляны крыж, які выглядам напамінае крыжы злому XIX/XX стагоддзяў, — заявіў скарбнік Парафіяльнай рады Анатоль Корх. Крыж стаіць збоку царквы, а за царкоўнай агароджай знаходзіцца валун з мемарыяльны дошкай.

У альбоме «Дубічы Царкоўныя. З гісторыі праваслаўнага прыхода» цікава і змястоўна прадстаўлена гісторыя і апошні перыяд дзейнасці прыхода. Змешчаны ў ім дакументы, даўнія карты, многа архіўных здымкаў і сучасныя фатаграфіі. У выданні матушка Ева напісала, што мясцовыя жыхары пераказваюць легенду, што даўно таму на Дубіцкую зямлю прыбыло з поўначы племя крывічоў (жыло яно на часццы тэрыторыі сённяшняй Рэспублікі Беларусь) і стала тут жыць, побач дубовага лесу. Ад слова «дубы» магло ўзнікнуць названне сяла «Дубічы». Другі член цяперашняй назвы вёскі «Царкоўныя» з'явіўся на картах у пачатку XIX стагоддзя. У час канферэнцыі протаіерэй Славамір Аўксецюк выступіў з дакладам аб гісторыі Праваслаўнага прыхода ў Дубічах-Царкоўных. Айцец Славамір і матушка Ева Аўксецюк лічаць, што вёска Дубічы была заснавана каля 1532 года, а першая царква свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў 1553 годзе атрымала прывілеі ад караля Жыгімонта II Аўгуста. З даклада айца Славаміра можна было даведацца, што прыход быў зруйнаваны ў XVII стагоддзі, у час шведскага нашэсця і падчас ваенных дзеянняў. У 1704 годзе згарэла першая царква, а ў 1729 годзе была ўзведзена царква Пакрова Божай Маці ў месцы, дзе знаходзіцца цяперашні храм. З бежанства 1915 года вялікая частка насельніцтва не вярнулася. Тыя, якім удалося вярнуцца дамоў, убачылі знішчаныя хаты і гаспадаркі. Дубіцкая царква чарговы раз згарэла ў 1941 годзе. У гэтым пажары згарэла большасць вёскі — уцалела толькі 12 дамоў. З вялікай дапамогай прыхаджан і ахвяравальнікаў з іншых прыходаў будову цяперашняй царквы ўдалося закончыць у 1954 годзе, а асвяціць у наступным годзе. Шмат дапамагла Еўдакія Дзмітрук з Грабаўца, якая далёка ад дому збірала ахвяры, якія і мяняла іх на будаўнічыя матэрыялы для царквы.



Фалькларыст і даследчык падляшскай мовы беларусаў **Дарафей Фіёнік** расказваў пра мерапрыемствы, якія арганізуе Музей малой айчыны ў Студзіводах



Сярод сабраных былі (злева) протаіерэй Славамір Аўксецюк, старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак, войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі і бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак

Аб'яднанне развіцця Дубіцкай зямлі «Бахматы» 19 кастрычніка наладзіла ў Гмінным асяродку культуры, спорту і рэкрэацыі ў Дубічах-Царкоўных канферэнцыю, прысвечаную юбілею парафіі. Побач мясцовых прыбылі на яе бурмістр Гайнаўкі і заадно старшыня Аб'яднання самаўрадаў еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ежы Сірак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак, старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік і дырэктар бюро Аб'яднання самаўрадаў еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчык. Прыхаджане і прыезджыя атрымалі інфармацыйныя буклеты аб Дубіцкім прыходзе. Можна было купіць прыгожа выдадзены альбом «Дубічы Царкоўныя. З гісторыі праваслаўнага прыхода».

— У час святкавання ў гонар святых апосталаў Пятра і Паўла, калі малітвы ўзначальваў мітрапаліт Сава, мы дзякавалі Богу за ўсе гады дзейнасці прыхода ў Дубічах-Царкоўных. Мы, праваслаўныя — аўтахтоны, прынамсі ад амаль 500 гадоў. Мемарыяльная дошка, з іконамі Пакрова Божай Маці і апосталаў Пятра і Паўла, нашых апекуноў, і новапастаўлены вялікі драўляны крыж таксама сведчаць аб нашай доўгай прысутнасці на гэтай зямлі. Мемарыяльную дошку выканаў Януш Талуць з Беластока, а амаль дзесяцітонны камень, на якім прымацавана дошка, прывёз Яўген Ляўчук з-пад Орлі. У нас жывуць гасцінныя людзі. Турысты, якія часта да нас прыязджаюць, павінны ведаць, што тут ад многіх вякоў жывуць праваслаўныя, — заявіў настаяцель Дубіцкага прыхода протаіерэй Славамір Аўксецюк.

— Юбілей парафіі — добрая нагода, каб шырэй папулярызаваць нашую гісторыю. Зараз у нашым прыходзе прапісаных больш за 600 чалавек, але многія з ліку маладых выехалі ў гарады, а ў нас асталася толькі прапіска. У саміх Дубічах-Царкоўных жывуць таксама людзі іншых веравызнанняў, але мы жывём тут у талерантнасці, — заявіў а. Славамір Аўксецюк.

Канферэнцыя і спадарожныя ёй мерапрыемствы ладзіліся дзякуючы сродкам з Польска-амерыканскага фонду вольнасці, атрыманым у рамках гранта з Аб'яднання самаўрадаў еўрарэгіёна «Белавежская пушча», у час рэалізавання праекта «Вяртаемся да каранёў».

— Мы хочам паказаць доўгую гісторыю Дубіцкага прыхода. У рамках праекта «Вяртаемся да каранёў» мы папоўнялі матэрыялы аб гісторыі прыхода, выдалі буклет, адрасаваны прыхаджанам і турыстам. Арганізавалі мы таксама паездку на паўвостраў Кудак, да айца Гаўрыіла, сённяя ладзім канферэнцыю. Наш прыход старэе, бо штораз больш асоб памірае, а штораз менш дзяцей нараджаецца, — гаварыла Людміла Петручук з Грабаўца, старшыня аб'яднання «Бахматы» — арганізатара канферэнцыі ў супрацоўніцтве з праваслаўным прыходам, гміннымі ўладамі і мясцовым асяродкам культуры. — Раней нашае аб'яднанне ладзіла іншы праект і мы выдалі турыстычны даведнік аб нашай гміне. Не карыстаемся вялікімі сродкамі, але намагаемся працаваць у карысць мясцовага грамадства. Цяпер плануем хадайнічаць перад Радай гміны аб перадачы для прыхода ў Дубічах невялікага ўчастка зямлі побач вадасховішча «Бахматы». На месцы, дзе ў мінулым знаходзілася першая царква, а цяпер стаіць толькі крыж, прадбачваецца пабудова часоўні. Хочам упарадкаваць гэтае месца і аддаць яму належную пашану.

— Мы стараемся вярнуць нам 8 сотак зямлі побач вадасховішча «Бахматы» пад часоўню. Зараз людзі пачалі будаваць дамы побач вадасховішча і можна сказаць, што гісторыя зрабіла круг. Мы вяртаемся ў тое месца, дзе стаяла першая царква, а новая часоўня закрывала б гэты круг, — сказаў протаіерэй Славамір Аўксецюк.

— Гэтая канферэнцыя — важная, бо набліжае нам нашую гісторыю. Спадзяемся, што паўстане таксама кніжка пра Старакарнянскую парафію, да якой многа матэрыялаў сабрала Іаанна Сапяжынская, ураджэнка Вітава, — заявіў войт Лявон Малашэўскі.

Іаанна Сапяжынская, настаўніца гісторыі ў Комплексе прафесійных школ у Гайнаўцы, у час канферэнцыі расказвала аб валочнай памеры — аграрнай рэформе каралевы Боны на Дубіцкай зямлі і ее наслядоўнасцях, якія паўплывалі на плaніроўку вёсак, якая захавалася да сённяшняга дня. Пад рэдакцыяй Іаанны Сапяжынскай у пачатку гэтага года выйшаў прыгожы альбом з фатаграфіямі Вітава і наваколля.

— Я напісала магістарскую працу пра Стары Корнін. Ёсць магчымасць папоўніць яе ўспамінамі людзей і архіўнымі здымкамі. Прадбачаем спатыкацца з жыхарамі Старога Корніна і збіраць матэрыял. Манаграфія аб Старакарнянскім прыходзе не будзе яшчэ выдадзена ў бліжэйшым часе, — сказала настаўніца Іаанна Сапяжынская.

Акадэмічны настаўнік Васіль Сегень з Універсітэта ў Беластоку гаварыў пра прыкметы характэрныя для мовы Дубіцкай зямлі, якой штодзень карыстаюцца жыхары Дубіцкай гміны. Фалькларыст і даследчык падляшскай мовы беларусаў Дарафей Фіёнік расказваў пра мерапрыемствы, якія арганізуе Музей малой айчыны ў Студзіводах і звярнуў увагу на падабенства фальклору Падляшша і Палесся, які ён даследуе разам са сваімі сябрамі з Рэспублікі Беларусь. Перад сабранымі ўдала выступілі хор Праваслаўнага прыхода ў Дубічах пад кіраўніцтвам Анны Антонюк, калектывы «Заграва» з Кузняцоўска (Украіна) і «Чабатухі» з мясцовасці Сташаны на Палессі. Беларускія спевакі, музыканты і танцоры прыехалі ў Дубічы разам з Дарафеем Фіёнікам, які арганізаваў «Чабатухам» гастролі па Беласточчыне. Перад дубіцкай публікай выступіў ён з «Вячоркамі», запрэзентаваў палескія танцы.

У час перапісу насельніцтва, праведзенага ў 2002 годзе, 81,33% жыхароў Дубіцкай гміны назвалі сябе беларусамі. Адчуваюць яны сувязь з Палессем, як у фальклорным, так і моўным плане, бо ж мова Дубіцкай зямлі вельмі падобная на мову палешукоў. ■ **Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



# Крыху Грыневіч і крыху наваколля

Царкоўка каля Грыневіч-Вялікіх

З не надта ранішняга аўтобуса, недзе каля паловы дзевятай, злажу ў Храбалах, якія ў парывах, у 1952-54 і 1973-76 гадах, бывалі гмінным цэнтрам; цяпер вёска ў складзе Бельскай гміны. Заглядаю ў недалёкую ад прыпынку краму, яна яшчэ закрыта, але ў дзевяць мае ўжо працаваць. Гэтаксама закрыта і паштовае агенцтва ў тым жа будынку, толькі з „чорным", значыць заднім уваходам.

Насупраць крамы амбулаторыя, якую вядзе фірма, прапісаная ў Галёнках, што ў Браньскай гміне. Перад установай некалькі легкавушак. З вёскі ў напрамку аўтобуснага прыпынку, што ў напрамку Беластока і Заблудава, спяшае маладая жанчына, якая далучыцца да чакаючай там іншай маладзіцы.

Побач амбулаторыі будынак аптэкі. Заглядаю ў акно і з немалым здзіўленнем бачу ўсярэдзіне фармацэўтку, чакаючую нейкіх уладальнікаў рэцэптаў з пуставатага на від наваколля. Калі з расхвалявальных сродкаў масавай інфармацыі раздаецца лямант, што хворым цяжка дабіцца за медыцынскай дапамогай, то ў Храбалах здаецца, што медыцынскаму персаналу складана дачакацца носьбітаў захворванняў. Магчыма, што гэтак будзе выглядаць медыцынская апека над праведнікамі і ў раю...

Кіруюся ў бок Рапнева. У лесе, каля дваццаці метраў ад асфальтоўкі ў бок Зубава, цэментны крыж з надпісам „Niech będzie Bóg uwielbiony". Але нейкага цяперашняга зацікаўлення тым знакам чалавечай рэлігійнасці, пастаўленым у 1957 годзе, не відаць; навокал гаспадарыць прырода. Вёска з дарогі таксама выглядае пуставата. Вікіпедыя: „Wieś pochodząca z przełomu XIII-XIV w., zamieszkiwana przez drobną szlachtę zaściankową. Są wzmianki, że woje z tych okolic walczyli z Krzyżakami pod Grunwaldem. Podczas II wojny światowej mieszkańcy mieli być rozstrzelani w lasach za wsią Chraboły, gdzie stacjonowały wojska niemieckie. Jednak dowódca tej jednostki jak zobaczył dzieci, kobiety i starców to zapytał SS czy według nich to są partyzanci. Następnie wszystkich odesłał do domów".

Кіруюся на жвіроўку ў бок Грыневіч. Зараз за Рапневам працякае рэчка Арлянка, побач якой некалькі сажалак. Каля адной з іх сабака. А на яго той від мне прыходзіць грэшная думка, што сабака там выконвае ролю вартавога, якую ў больш прэстыжных месцах, напрыклад, у маўзалеі на маскоўскай Чырвонай плошчы, выконваюць рослыя маладыя людзі ў адмысловых мундзірах. Часам ролю вартавога выконвае звычайны плот, а ў апошні час электроніка.

Зараз за рэчкай чарговая вёска — Грыневічы-Малыя. На вуліцы, прысыпанай асеннім лістоем, убіты калочкі, што паказвае на набліжэнне нейкай перабудовы вулічнага насцілу. Прысыпаны лістоем і дах хаты, якая здаецца быць вясковай святліцай, хаця ніякай шыльды на ёй няма. Спыняюся перад мураванай каплічкай з надпісам у шчыце: „Z wdzięczności Matuchnie Niepokalanej za ocalenie 1944 r.". Над надпісам ластаўчыны гнёзды.

Акурат побач паказаўся мужчына і я пацікавіўся ў яго гэтай капліцай. А ён ахвотна расказаў мне пра яе, як пра фрагмент мясцовай не надта адлеглай гісторыі. Менавіта пад канец мінулай вайны немцы сабралі жыхароў вёскі і пагналі ў лес за Храбаламі, дзе мелі іх расстраляць. За што немцы збіраліся расправіцца з вяскоўцамі — невядома, бо жыхары вёскі не ўчынілі нічога дрэннага. Немцы, аднак, пабачыўшы, што некаторыя людзі нясуць каталіцкія крыжы, адпусцілі вяскоўцаў, аднак выбілі ім дабытак — кароў і коней. Калісь у Грыневічах-Малых працавала школа, дзеці вучыліся ў прыватных будынках, а настаўніца была з Торуні. І вось яна, тая настаўніца, была ініцыяткай пабудовы падзячнай капліцы. Хацела яна ўзнесці такі храм, у якім маглі б людзі маліцца, але тадышнія ўлады не дазволілі на такое, таму атрымалася каплічка невялікая. Толькі пасля змены грамадскага парадку ў краіне адзін з грыневіцкіх выхадцаў ахвяраваў на вясковым загуменні ўчастак сваёй зямлі для рэлігійных мэт і на ім была ўзведзена большая капліца, у якую прыязджае ксёндз з Бельска адпраўляць набажэнствы і ў якой часам збіраюцца і самі парафіяне памаліцца самастойна.

Мой субяседнік паінфармаваў мяне таксама, што неўзабаве вуліца ў Грыневічах-Малых атрымае асфальтавае палатно — калі дарожныя майстры з Бельска завершаць асфальтаванне шашы ў Белавежу. У вёску даходзіць асфальтавая веточка з Гацькой, а вось у Грыневічы-Вялікія насціл нават не са жвіру, а са звычайнай зямелькі. Праязджаючыя маладыя людзі запрапанавалі мне падсадку... Я падзякаваў, але навеялася мне такая думка, што калі б там быў нейкі больш „цывілізаваны" насціл, то ўладальнікі аўтамабіляў былі б у большай спешцы і не звярталі б увагі на тых, хто карыстаецца старасвецкімі „сваімі дваімі". Калісь жа калісь, калі наш народ карыстаўся вазамі з коннай цягай, было нормай запрашэнне пешахода на падсадку...



Новая капліца ў Грыневічах-Малых

Дарэчы, на тынку першага гаспадарчага будынка ў Грыневічах-Вялікіх манументальныя выявы двух коней; побач магутны трактар. Коні ж, таксама як і сабакі, выконвалі некаторыя людскія работы, якія зараз перaймаюць машыны...

За агароджай аднаго з панадворкаў стаіць цэментны крыж з выразаным на ім адмысловым вершам; абгароджаны ён невысокім драўляным плотам, які, аднак, не дазваляў сфатаграфаваць змест малітоўных рыфмаў. Зайшоў я тады за агароджу шчоўкнуць здымак; фортка была адкрыта, а гаспадароў не было відаць. Калі я вярнуўся на вуліцу, з мураванкі выйшла гаспадыня, у якой я ветліва папрасіў прабачэння за хвілінны, і па-мойму бяскрыўдны, уваход пад святыню. Аднак жанчына мела на гэты конт зусім іншае меркаванне і выказала апаску, што я змагу дапусціцца злоўжывання гэтай святыняй, у дадатку некалі пасвячанай святаром. Тлумачэнні, што надпіс жа скіраваны вонкаваму мінаку, яе не пераконвалі, яна надалей была заклапочана магчымай прафанацыяй святыні...

Не магу не прывесці зместу малітоўнага верша беручы пад увагу яго фальклорную шчырасць: „Wspomóż w potrzebie proszących Ciebie, odpuść nam złości dla Twej litości, znieś głód, mór, wojny, spraw czas spokojny, daj dar miłości i pobożności, szczęście Państwu Twemu jako swojemu, strzeż nas żyjących, broń konających, daj nam być w Niebie opodla Ciebie".

Жанчына, мабыць, пільна аглядае інфармацыйныя і публіцыстычныя праграмы нашага тэлебачання, якія стараюцца зацікавіць гледача найбольш крыклівымі паведамленнямі — весткамі пра зло. І ўсе гэтыя тэлевізійныя жахалкі складваюць у спакойных людзей уражанне, што недзе ў свеце дзеецца нейкае пекла. І што нейкі незнаёмы, які на хвіліну зайшоў за агароджу ціхага панадворка — хай сабе толькі шчоўкнуць здымак — магчыма, нясе за сабою таксама нейкае жахлівае зло. Мудры ж цар Саламон быў спакон вякоў пісаў: „Рупіўся я каб пазнаць мудрасць і ўмеласць, шаленства і дурноту; і спасціг, што гэта ўсё мучэнне душы". Сродкі масавай інфармацыі прыносяць нам плады райскага дрэва пазнання дабра і зла, з прыдаткам — душэўнымі пакутамі...

У Грыневічах-Вялікіх два разгалінаванні вуліц. Побач першага святліца. На другім, за жалезнай агароджай стары каменны праваслаўны крыж у суправаджэнні высокіх дрэў, побач якіх і малодшы — з 1977 года. На канцы вёскі, з боку Бельска, старыя, абведзеныя бетонна-жалезнай агароджай могілкі з візантыйскім і лацінскім крыжамі на браме...

У пойме ракі Белай бугарок з дзейнымі могілкамі і блакітнай царкоўкай. У агароджы могілак стэнд, пастаўлены захадамі Звязу беларускай моладзі: „Найбольш раннія сляды пасяленняў у раёне Грыневічаў паходзяць з эпохі неаліту і звязаныя з пясчанымі наносамі ў месцы, дзе рака Белая ўпадае ў Арлянку. Калі ў XI-XII ст. вялікае значэнне пачынае адыгрываць Бельск, рускія князі гораду селяць баяраў, якія мелі абавязак вайсковай і замкавай службы. Такім вакол паселішчам былі Грыневічы. За верную чужбу грыневіцкія баяры атрымалі шляхецкія правы. Пад актамі сойму ў Любліне ў 1569 г. бачныя подпісы 48 асобаў з Грыневіч. Першая згадка аб прыхадской праваслаўнай царкве св. Ілы ў Грыневічах датуецца 1571 г. Пасля 1596 г. грыневіцкая царква падпарадкавалася пастановам Берасцейскай уніі. Унію прыняла таксама і мясцовая шляхта. У II пал. XVII ст. шляхта пачала пакідаць сваё веравызнанне і пераходзіла ў рымскі каталіцызм. У Грыневічах нарадзіўся Ігнат Даніловіч (1788-1845), прафесар Віленскага ўніверсітэту, выдатны знаўца рускага і літоўскага права, чалавек, які знаходзіў і выдаваў гістарычныя дакументы часоў Вялікага Княства Літоўскага. Іншай вядомай постаццю з'яўляецца Ігнат Грынявіцкі. У час навучання ва ўніверсітэце ў Пецярбурзе ён здзейсніў замах на расейскага імператара Аляксандра II (1882 г.) У 1915 г. падчас ваенных дзеянняў згарэла царква св. Ілы. Напамінам аб баях з'яўляюцца магілкі нямецкіх і расейскіх вайскоўцаў. Цяперашняя царква была ўзведзеная ў 50 гг. XX ст.".

Пасля грыневіцкіх могілак з царкоўкай заглянуў я і на новыя бельскія могілкі, што з боку Нарвы, Кленік і Катлоў... У 1054 годзе ў Канстанцінопалі тамашні патрыярх Міхаіл Керуларый і легат рымскага папы кардынал Гумберт узаемна абкляліся анафемамі, быццам замацоўваючы раскол між усходняй і заходняй часткамі хрысціянскага свету. І хаця ў 1965 годзе тыя анафемы былі абодвума бакамі скасаваны, аднак раскол захоўваецца; вельмі выдатна захаваны ён на новых бельскіх могілках, разгароджаных непраходнай жалезнай агароджай паміж праваслаўнымі і каталіцкімі пакойнікамі; іншых вартавых там пакуль не відаць... Яшчэ шмат хто з тутэйшых у гэтым рэлігійным спектаклі стараецца іграць ролю або Керуларыя, або Гумберта...

Заглянуў я і ў бельскую Гмінную ўправу; некаторыя гміны выпусцілі даведнікі пра сваё мінулае...

— Może urząd wydał monografię gminy? — спытаў я міленькую сакратарку.

— Mammografię gminy? — здзівілася яна.

— Monografię gminy.

— Nie, niczego takiego nie wydawaliśmy.

— A czy jaskółki nie wieszczą takiej nowiny?

— Nie.

І хіба нават цалкам слушна, што феміністычная ўправа Бельскай гміны турбуецца галоўным чынам пра здароўе, асабліва сваёй найпрыгажэйшай паловы.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Адчуванне памежжа

**Гісторык мастацтва, рукадзельніца Іаанна Мікоўская і філолаг, фальклярыстка Агнешка Банась штодзень пражываюць у найпрыгажэйшым у свеце Кракаве. Абедзве мераюць час сваёй меркай, таму не здзіўляе, што ўжо чарговы раз наведалі надта адсталую Крыншчыну. Вельмі адчувальны тут дух мінулых стагоддзяў заманіў падарожнічаючых уздоўж усходняй мяжы дзяўчат. Як самі кажуць, у такіх месцах сустракаюць яны тое, чаго нідзе больш не пабачыць, не адчуць.**



Так відавочныя ў Крынках сляды разнароднасці і згоднага суіснавання некалькіх рэлігій і нацый заставілі іх задумацца і засумаваць па ідылічнай краіне адкрытасці на другога чалавека. І задаюць яны сабе пытанне: дзе гэта ўсё прапала?..

Іаанну вельмі цікавіць тое, што засталося, перадусім старэйшыя людзі.

«Гэта, мабыць, звязана з перыядам жыцця, у якім я знаходжуся, — кажа яна. — Шукаю цяпер так патрэбнай мне пуцяводнай ніці, а старэйшыя людзі многа чаго ведаюць, ёсць чаму ад іх павучыцца. Быццам усюды ёсць так сама, але ўсё-такі інакш, мне якраз ідзе пра культурнае акружэнне. Характэрная ежа, гаворка, хатні інтэр'ер — гэта дэталі, якімі я захапляюся. Усюды людзі аднолькавыя. Адзінае, што іх адрозніване — гэта шкарлупіны іх уласнай культуры. Мне хочацца гэта ўсё праверыць, пазнаць. Мая прыгода з мяжой пачалася ад пошукаў матэрыяльнай спадчыны, а канкрэтна царкоўнага мастацтва і могільнікаў. Гадоў дзесяць таму я звязалася з аб'яднаннем, якое займаецца зберагannem старых могільнікаў. Тое ўсё неяк цяпер прытухла, стала фонам для даследаў чалавека самога ў сабе. Апрача таго люблю валачыцца, усюды заглянуць, спазнаць».

«Нашае цяперашняе падарожжа мы пачалі з мяжы з Літвой. Столькі кіламетраў, а пагранічнае жыццё паўсюль выглядае аднолькава. Гэты досвед мне добра знаёмы, таму што я сама выхавалася на падгорліцкім, польска-ўкраінскім памежжы, — кажа далей Іаанна. — Сусед, быццам такі сам, але іншы, падаць, не падаць яму руку. Аднолькавыя пытанні ставяць сабе жыхары ўкраінскага, славацкага ці літоўскага памежжаў. Хочацца дакедацца навошта патрэбныя людзям падзелы на лепшых і горшых, нашых — чужых, маё — тваё».

Агнешка ў сваёй памежнай вандроўцы звяртаецца перадусім да традыцыйнай музыкі. Менавіта да гэтага хочацца ёй дакрануцца.

«Я не вельмі арыентуюся ў музыцы жыхароў усходняга памежжа, — прызнаецца яна. — Штодзень займаюся выключна карэнна польскім фальклорам рэгіёнаў Радамшчыны, Кялеччыны ці Мазовіі. Сама я нарадзілася пад Кельцамі, таму менавіта з гэтай плыннію атаясамліваюся. Не ўяўляю сабе дзейнасці ў гэтай сферы без кантактаў з людзьмі. Часта наведваю спевакоў і музыкантаў згаданых рэгіёнаў. Цяпер мне хочацца сустрэцца з людзьмі, якія гэтым займаюцца тут, на памежжы. Няма мне большай радасці, чым кантакт з аўтэнтычнымі музыкантамі, жывой традыцыяй. Матэрыял сабраны ў час сустрэч выкарыстоўваю ў якасці рэпертуару ў маім, жаночым калектыве „Строёнэ". Пакуль мы спяваем без ніякага інструментальнага акампанементу але ўжо вучуся іграць на народнай скрыпцы. Маімі настаўнікамі з'яўляюцца менавіта аўтэнтычныя, вясковыя музыканты. Тут хочацца адкрыць для сябе новыя, невядомыя мелодыі і доседы. Я вырасла на вёсцы і мне вельмі добра ў такіх месцах, якія я цяпер наведваю».

«Нашае падарожжа, — згодна прызнаюцца абедзве жанчыны, — можна назваць пошукамі праўды і жыццёвай дарогі. Тут, пасярод людзей, якія жывуць на больш чым сціплыя зарплаты ці пенсіі, мы гэта знаходзім. Гэтыя людзі жывуць у сваіх хатках, маленькіх свесветах, займаючыся толькі тым, што носяць у сабе. Што найбольш важнае, такое падарожжа дапамагае пазнаць не толькі другіх, але перш за ўсё самога сябе».

«Узгадваецца мне мая першая сустрэча з падкрынскімі вёскамі, — гаворыць Іаанна. — Маленькія хаткі старой Грыбоўшчыны непадалёк Вершаліна. Мноства вузенькіх, польных дарожак у нязведаных напрамках, у якіх лёгка можна загубіцца. Гэта і ёсць сутыкненне з канцом свету, а заадно мяжой уласных магчымасцей. Кожны рухаецца па прасторы ўласных абмежаванняў. Справа ў тым, каб дайсці да гэтага свайго канца. Сутыкненне з канчатковай прастатой магчымае і вельмі патрэбнае. Не ставім сабе ніякіх канкрэтных патрабаванняў. Калі не паспеем з чымсьці цяпер, паспрабуем наступным разам».

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



## http://supratiu2007.narod.ru

Калі знаёміцца з беларускай песеннай спадчынай апошніх дзесяцігоддзяў, то вельмі цяжка абысці такую з'яву, як бардаўская песня. Зразумела, што творы ўласных сачыненняў пад гітару людзі спявалі заўсёды, але значным штуршком для развіцця беларускай бардаўскай песні сталі часы набыцця краінай незалежнасці. Надзея на большую справядлівасць, чым была за савецкім часам, прага да нейкага ўласнага ўкладу ў з'яўленне сапраўднай беларускай дзяржавы расцярушвала думкі і сэрцы многіх беларусаў. Ну, а калі чалавек меў музычныя і паэтычныя здольнасці, то рукі яго цягнуліся да гітары.

З тых перабудовачных і постперабудовачных часоў і пайшла сучасная беларуская бардаўская песня. Зразумела, яе тэматыка цяпер стала больш спакойнай, яна надае значную ўвагу лірыцы, але разам з тым гучаць у ёй і палымяныя ноты і словы, што заклікаюць да змагання. У інтэрнэце адным з месц, дзе можна пазнаёміцца з беларускімі бардаўскімі песнямі, з'яўляецца сайт „Беларускі нацыянальны супраціў", які месціцца па адрасе **http://supratiu2007.narod.ru.**

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на даны сайт, то ён можа падацца яму нейкім недаробленым. Уверсе выяўлення месцівца „Пагоня", акаймлёная бел-чырвона-белай стужкай. Ніжэй ідзе своеасаблівая прэзентацыя сайта з імёнамі выканаўцаў. Пры гэтым няма аніякай сістэматызацыі песень па тэматыцы ці гадах, што і прымушае думаць аб тым, што сайт з большага быў зроблены на скорую руку.

„Запісы на гэтым сайце размешчаны толькі для знаёмства з лепшымі беларускімі бардамі. Падтрымлівайце сваіх любімых выканаўцаў, па магчымасці набывайце іх ліцэнзійныя дыскі! Калі Вы ведаеце сайты з беларускімі бардамі, якіх няма ў нашых спісах — дашліце, буду Вам вельмі ўдзячны. Калі самі пішаце песні — прапаную супрацу, падзяліцеся з іншымі сваёй творчасцю!" — піша ўладальнік сайта, які чамусьці забывае прадставіцца.

Сярод карысных паведамленняў, якія месцяцца на галоўнай старонцы — пазначэнне колькасці песень на сайце. Іх 768, што даволі важна і ўказвае на руплівасць пры яго стварэнні. Але тое, што сайт на даны момант пакрысе прыходзіць у заняпад, сведчыць надпіс на старонцы „Клуб беларускай бардаўскай песні", дзе распавядае пра нейкую імпрэзу, якая мае адбыцца ў сакавіку, прычым невядомага года.

Сайт мае прэтэнзію на мультымедыйнасць. Так, акрамя аўдыёзапісаў, мы можам таксама пабачыць відэа выступленняў некаторых выканаўцаў. Для гэтага трэба зазірнуць на старонку „Відэа". Вось там, дарэчы, ёсць і нейкая спроба сістэматызаваць творы — маецца своеасаблівы раздзел песень, прысвечаных памяці рэпрэсаваных. Гэтая спроба працягваецца на старонцы „Аршанская бітва — 2007", дзе месцяцца выступленні бардаў 8 верасня таго года на Крапівенскім полі пад Оршай, прысвечаныя бітве князя Канстанціна Астрожскага з маскоўскімі войскамі.

Пра тое, што росквіт сайта прыйшоўся на 2007-2008 гады, сведчыць старонка „Розныя творчыя імпрэзы і кватэрнікі", дзе знаходзяцца аматарскія запісы прыватных выступленняў бардаў з тых гадоў. Невядомы ўладальнік сайта адразу перапрашае за невысокую якасць запісаў, але, пэўна, менавіта яна перадае атмасферу кулуарных выступленняў, якія часцяком больш шчырыя за выдатна тэхнічна падрыхтаваныя канцэрты. І ў гэтым ёсць ледзь не галоўная вартасць гэтага крыху дзіўнавага „Беларускага нацыянальнага супраціву".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



Служыў Богу, меў няміласць улад

## 130 гадоў з дня нараджэння Янкі Быліны

30 кастрычніка 1883 года ў вёсцы Лакцяны (цяпер Астравецкі раён) нарадзіўся Янка Быліна (сапраўднае прозвішча Ян Семашкевіч), беларускі каталіцкі святар, пісьменнік, паэт. Біяграфічныя звесткі пра яго ў розных энцыклапедыях досыць сціслыя. Паходзіў ён з беднай сялянскай сям'і. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1907 годзе. У семінарыі тады навучалася вельмі шмат беларускіх патрыётаў, якія пазней стварылі цэлую хвалю беларускамоўнага каталіцтва. Неўзабаве быў высвечаны на святара. Хутка зазнаў пераслед з боку расейскай улады. Зараз у такое цяжка паверыць, але ў 1910 годзе святар Семашкевіч быў засуджаны да штрафу 25 рублёў і адхілены ад службы за тое, што даў шлюб праваслаўнаму з дзяўчынай каталічкай. Пазней падобная сітуацыя паўтарылася. Быў прызначаны пробашчам у Смаргонях, але сам адмовіўся, пазней атрымаў месца ў Дварцы (Дзятлаўскі раён). Там ксяндза Семашкевіча неаднаразова спрабавалі дыскрэдытаваць — як жыхары, так і ўлады, за розныя «няправільнасці». Праўда, мясцовы праваслаўны святар Канстанцін Калішэвіч выказваўся пра яго нейтральна і амаль пазітыўна. Паводле сведчанняў, святар Семашкевіч актыўна выступаў супраць п'янства. Служыў таксама ў касцёлах у мястэчку Ілля на Вялейшчыне, у Цудзенішках (Ашмянскі раён), у Медніках (цяпер Літва), у Лаварышках ля Вільні, з 1926 года — у Дукштах каля Трокаў. Быў адным з тых каталіцкіх святароў, якія актыўна ўкаранялі беларускую мову ў набажэнствы і зносіны з парафіянамі. За гэта зазнаў пераслед з боку ўлад тагачаснай Польшчы.

З 1933 года служыў ксяндзом на Беласточчыне — у Янаве (да 1937), Ялоўцы (1937-1939), Міхалове (1939-1946), Бомблі (1946-1956). Там і перажыў Другую сусветную вайну. На жаль, у гэты перыяд адышоў ад літаратурнай і актыўнай беларускай грамадскай дзейнасці.

Як літаратар Янка Быліна пісаў гумарыстычныя вершы, байкі, вершаваныя апавяданні, санеты, трыялеты. Друкаваўся з 1917 года ў газетах «Гоман», «Крыніца», часопісах «Маланка», «Калосьсе», «Шлях моладзі», «Хрысьціянская думка», «Снапок», «Пралескі». Аўтар зборнікаў паэзіі «На прызьбе» (Вільня 1918, перавыдадзены ў 1926), «На покуці» (Вільня 1934), рэлігійных твораў «Ружанец да Найсвяцейшае Дзевы Марыі» (Вільня 1928), «Песні жальбы або Набожныя разважанні аб муках і смерці Збаўцы Езуса Хрыста» (Вільня, 1929), «Дарога крыжа» (1930).

Памёр Янка Быліна 18 лютага 1956 года ў мясцовасці Бомбля. Пахаваны каля тамашняга касцёла. Ягонае імя стала вядомым беларускай грамадскасці ў час нацыянальнага адраджэння. У 1993 годзе ў Астравецкім раёне былі ўрачыста адсвяткаваны сотыя ўгодкі з дня нараджэння Казіміра Сваяка і Янкі Быліны. А ў жніўні 2003 года грамадскае аб'яднанне «Вільняр» арганізавала на малой радзіме Быліны ў Лакцянах мастацкі пленэр і краязнаўча-літаратурныя чытанні.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Польска-беларускія святкаванні

# 70-й гадавіны бітвы пад Леніна

У вёсцы Леніна на Беларусі адбыліся ўрачыстасці, прымеркаваныя да 70-й гадавіны бітвы I Пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі з нямецкімі войскамі. На месца змаганняў прыехала больш за 200 чалавек з Польшчы, разам з афіцыйнай дэлегацыяй, узначаленай кіраўніком Установы па справах ветэранаў Янам Цеханоўскім. У святкаваннях удзельнічала шмат беларусаў і расіян. Віцэ-старшыня Магілёўскага аблвыканкама Валерый Малашка адзначыў, што супольная барацьба супраць гітлераўцаў прынесла вызваленне ад нацысцкага тэрору і ўфармавала дружбу паміж народамі, якія імкнуліся да свабоды. Сцвердзіў, што «беларускі народ ніколі не забудзе сваіх вызваліцеляў. Братэрства па зброі было акуплена крывёй, пралітай у барацьбе. Сёння можам фармаваць прыязныя адносіны паміж нашымі суседзямі. Аднак каб будаваць фундаменты супрацоўніцтва, нельга палітызаваць гісторыю, толькі рабіць высновы з яе ўрокаў». Старшыя Горацкага райвыканкама Ігар Макар дадаў, што народ, які не паважае гісторыі, не мае будучыні.

Ветэран бітвы пад Леніна палкоўнік Эўгеніюш Скшыпэк прыгадаў, што супольнай мэтай, якая спалучала нашыя народы, была перамога над немцамі і адбудова краін з ваенных знішчэнняў. «Сёння дзеці і ўнукі не ведаюць вайны. Аднак няхай паміж народамі пануе не толькі мір, але і дружба, і супрацоўніцтва», — заклікаў. Амбасадар Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Лешак Шарэпка выказаў думку, што чалавек жыве так доўга, пакуль жывая памяць аб ім. Памяць наступных пакаленняў аб ахвярах за заваяваную свабоду з'яўляецца кампенсацыяй за страчанае жыццё салдат. Дыпламат звярнуў таксама ўвагу, што ваенныя магілкі ў Леніна гэта ўзорны прыклад як павінны выглядаць такія месцы памяці. Падзякаваў таксама мясцовым уладам за ўтрыманне іх у такім стане. Палкоўнік Тадэвуш Таркоўскі, намеснік старшыні Саюза ваенных інвалідаў, сказаў «Ніве», што месца бітвы пад Леніна важнае не толькі для ветэранаў і захоўвання гістарычнай памяці. «Яно выконвае важную адукацыйную ролю. Тут моладзь можа вучыцца патрыятызму, а таксама фармаваць дружалюбныя адносіны і адкрытасць на іншыя народы. Леніна — асаблівае месца, якое прыбліжае палякаў, беларусаў і расіян. Таму мы павінны тут сустракацца, каб, успамінаючы гісторыю, думаць аб будучыні».

**Адам БОБРЫК**

# Легенда аб узнікненні Раманоўкі

Калі нядаўна пісаў я аб стогадовым юбілеі вёскі Раманоўка каля Сямятыч, прадставіў гістарычны фон узнікнення гэтай мясцовасці. Сёння хачу пераказаць змест вельмі цікавай легенды аб пачатках вёскі. Менавіта выконваючы школьную задачу апісаць гісторыю сваёй вёскі, тадышняя вучаніца сярэдняй школы Аня Зінчук запісала ў 2004 годзе такую вось версію гэтай падзеі:

„Вёска ўзнікла ў час панавання дому Раманавых. Адзін з цароў, калі атрымаў маёнтак, вырашыў пасяліцца на Падляшшы і добраўпарадкаваць яго пры дапамозе свайго багацця. Людзі з наваколля Гайнаўкі, даведаўшыся пра багатага пана, якому патрэбны былі людзі да працы на гаспадарцы, прыязджалі сюды пасяліцца і служыць Раманавым. Цар быў добрым чалавекам, памагаў людзям у патрэбе, будаваў дамы сем'ям, якія хацелі пасяліцца. Былі гэта дамы для чатырох-пяці сем'яў, г.зв. „чваракі". Людзям цар даваў работу, за якую добра плаціў.

На жаль, усё добрае хутка канчаецца. Сужонства Раманавых не магло мець дзяцей, а дзіця народжанае ад сурагатнай маці пакончыла жыццё самагубствам, даведаўшыся, хто з'яўляецца яе біялагічнай маці. А была ёю служанка з царскага палаца. Неўзабаве Раманаў прайграў маёнтак у карты і прыйшлося яго аддаць банку. Каб дакументы і каштоўнасці не трапілі ў рукі чалавека, якому ён прайграў, цар закапаў скрынку з каштоўным змесцівам на тэрыторыі свайго маёнтка. Да сённяшняга дня нікому не ўдалося знайсці скрынку, а чалавек, які ведаў дакладнае месца яе знаходжання, нядаўна памёр. Пасля ўцёкаў Раманава на сваю радзіму насельніцтва новага населенага пункта на памятку добрага часу, праведзенага з Раманавым, назвала новую вёску Раманоўкай. Маёнтак, які тады знаходзіўся ў распараджэнні банка, раскупілі навакольныя людзі".

Столькі легенда. Здавалася б, што адносна нядаўныя падзеі павінны лепш і больш дэталёва захавацца ў людской памяці. Тым часам на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў падзея абрасла казачнымі падрабязнасцямі. Дзіўна, бо ў многіх дамах захаваліся банкаўскія і натарыяльныя дакументы датычныя засялення Раманоўкі. Напрыклад, у сям'і згаданай вучаніцы — сёння ўжо студэнткі — такія дакументы захоўваюцца. Якой жа моцнай мусіць быць патрэба народнай творчасці, упрыгожвання таго, што здаецца быць простым, звычайным, ускладненнем цяжкіх для праверкі спраў... Ну, але з гэтага бярэцца важная частка фальклору: народная вуснапаэтычная творчасць.

**М. Ц.**

# Адгаданка

1. абгароджаная канатамі пляцоўка для баксёрскіх спаборніцтваў, 2. прыбор для сушкі валасоў нагрэтым паветрам, 3. брат Ісава, 4. эмацыянальна-пачуццёвы род мастацкай літаратуры, 5. не радзіма, 6. дзейнасць сейбіта, 7. дрэва сямейства маслінавых з перыстым лісцем (*Fraxinus*), 8. у мяшку не схаваеш, 9. адна трыццацішасціна ярда, 10. куфар, 11. пахучае рэчыва са стручкоў ванілі, 12. найбольшае еўрапейскае возера, 13. гаспадарчы будынак для складвання зжатага збожжа, 14. небяспечная — разносчык барэліёза — жывёлінка атрада павукападобных (*Ixodida*).

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 39 нумара**

Азот, кара, круг, мех, рыс, хуліган, церніца.

Рашэнне: **Глухі хірург не карыстаецца наркозам.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 03.11 — 09.11

**(22.03. — 20.04.)** Вытрывай пры тым, што табе важнае. Але не рызыкуй больш чым трэба. З 7.11. будзеш вельмі адважны, баявіты і моцны. У кар'еры золата для трывалых (не спазняйся з праектамі). Скантралюеш свае выдаткі. Але нервовасць і спешка могуць прынесці траўмы і хваробы.

**(21.04. — 21.05.)** Лістапад рысуецца ў светлых колерах, хаця будзь асцярожны. У пачуццях пастаў на размовы. Больш адпачывай, каб набраць сілы (горш са здароўем будзе ў цябе ў апошняй дэкадзе). У кар'еры вялікія змены, якія прынясуць канкрэтныя карысці (дзейнічай і дасягай мэт, але будзь асцярожны і дбай аб дэталі). 3-4.11. спрэчкі з каханай асобай. Да 11.11. лепш не купляй, асабліва кампю'тараў.

**(22.05. — 22.06.)** Дасі з сябе ўсё, хіба што палічыш, што „аўчынка вырабу не варта". На працы 3-4.11. будзе не так як табе хацелася, будуць сітуацыі, калі трэба адсунуцца ў цень. У сям'і вузы зацесняцца. Не пераборшч з тэмпам, пазбудзься стрэсуючых эмоцый. У кар'еры можа табе схацець перашкодзіць жанчына; не змагайся з ёю, бо больш можаш страціць.

**(23.06. — 23.07.)** У пачуццях не вырашай аб найважнейшым. Паводзіны іншых могуць увесці ў тваё жыццё хаос. Але можаш знайсці спосаб, каб зрэалізаваць свае мары. У кар'еры знакаміты час, толькі засяродзься на заданнях. 3.11. — неспакой, не выбірайся ў падарожжа, можа штосьці, у што ты верыў, аказацца малавартым. 4-8.11. магчымыя складнасці ў бізнесе. 6-10.11. будзеш вельмі падабацца! Пазбудзешся комплексаў!

**(24.07. — 23.08.)** У пачуццях буры! Трэба будзе аддыхацца! 3-4.11. агорнеш усе сітуацыі адважна. Але ў сям'і не заводзь новых парадкаў. Будзеш мець у лістападзе столькі сілы, што вытрываеш у рашэннях; сядзь на дыету, патрэніруйся. Дбай аб узровень цукру. Працуй ва ўласным тэмпе. Не чапай фінансавых спраў. Асцярожна плануй усе выдаткі, не бяры пазык.

**(24.08. — 23.09.)** Умееш лічыць? Разлічвай на сябе, бо дзякуючы гэтаму выйдзеш на сваё. У пачуццях час на рашэнні. Але дома не будзе ідыліі; 3-4.11. можа быць гарачая і балючая спрэчка. У здароўі магчымыя праблемы з крывацёкам, еж многа гародніны, цёпла апранайся і праводзь час на паветры. У кар'еры прабуй новых прыёмаў; шмат нечаканых падзей — можаш мець свае 5 хвілін! Пры грашах трымайся плана.

**(24.09. — 23.10.)** 6-10.11. знакамітая забава, сустрэчы. Прыліў эмоцый, нават пасля адной сустрэчы схочаш ладзіцца на ўсё жыццё (3-6.11. вельмі хуткі развой адносін). Дома хтосьці «кнуе», мабыць падлівае алівы ў агонь жанчына Скарпіён або Стралец. Ідэальны час на рэгенерацыю здароўя; цёпла апранайся. Ты ў лістападзе «працаўнік месяца». Калі шукаеш падзаработку, не перабірай.

**(24.10. — 22.11.)** Іграеш на высокую стаўку! Моцна круціся каля сваіх кар'ерных спраў! Найбліжэйшыя прыйдуць табе з дапамогай. Выкажаш усе свае пачуцці. У старых парах сапраўдная ідылія, у сям'і — найлепшыя лады пасля 5.11. 2-5.11. нервы і стрэс; пад прымусам не вырашай важнага, бо страціш здабытае. 3.11. разгубленасць і слабасць. Пасля ўвесь месяц мноства энергіі, добрая кандыцыя, калі мучаць цябе працяглыя хваробы — паправішся.

**(23.11. — 22.12.)** Шалёныя задумы, шалёныя планы, агромныя пачуцці — проста, язда без трыманкі! Шчасце ў пачуццях. Магчымыя клопаты з дзецьмі. На працы магчымае павышэнне. Хапай новыя праекты, новыя прыёмы. Плануй доўгатэрмінова, поспех чакае, немалы!!

**(23.12. — 20.01.)** З усмешкай прымеш і кінеш выклікі. Але аслiная ўпартасць можа табе зашкодзіць. У пачуццях як у раі. Добрае здароўе і настрой. Сэрца дай рабоце. Але 2-4.11. магчымая кара за распусту; спазненні, складанасці.

**(21.01. — 19.02.)** Сам гарантуеш сабе шмат стрэсу, але не забудзешся смяяцца. Не чакай з размовай у пары. Але 2.11. схочаш зашмат; не трап у тупік! На працы ты ненасытны працаголік; пахваляць. Адмоўся ад непрадуманых пакупак.

**(20.02. — 21.03.)** Амбіцыя — тваё другое імя, аднак пільнуйся, каб праз яе кагосьці не страціць. Слізка ў хаце, не дапусці да скандалаў. 2-4.11. галаўныя болі (неператамляйся ўвесь месяц). 6-10.11. радасць, фінансавыя і прафесійныя поспехі, добрыя пакупкі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",** BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 350 egz.

# Наш святы пакутнік з Палічнай (ч. 3)

**Памыляецца той, хто думае, што проста зашчапіць у народзе добры прыклад, узор, ідэал. А ўжо ў выпадку, калі ідзе пра асобу святога, перашкоды непазбежныя. Праўдзівая да болю прыказка, якая кажа: найбольш складана быць прарокам у сваім краі. У выпадку беларускай вёскі, біблейская праўда яшчэ больш праўдзівая і балючая. Тут кожны, у глыбіні душы, лічыць сябе найлепшым і самым дастойным сярод дастойных!**

У голасе субяседнікаў, калі мы пыталі пра святога Юр'я Сцепанюка, найперш адчуваўся недавер і дыстанцыя.

— Іх жа там оптам пасля развалу СССР кананізавалі, — паўтаралі адны. Другія чакалі развіцця культу і пакуль ад недаверу толькі круцілі галавой.

Аднак замест здзіўляцца скептычнасці мужыкоў, мы здзіўляліся перашкодам і незразуменню, якія сустрэлі сваякоў святога. У час асвячэння іконы ніхто не прыкмеціў іх прысутнасці, не падзякаваў ім за ангажаванасць, дапамогу. Нам пашанцавала асвятліць праблему, дзякуючы добрай выпадковасці, якую хіба наладзіў сам святы з Палічнай.

* * *

Бо ў звычайным парадку ўсё адбываецца наадварот. Калі людзі належным чынам ацэняць дар пасланы небам, яны гатовы ехаць на край свету і асвятляць тайну. Неацэнены Яраслаў Харкевіч адшукаў месца і сваякоў святога, скантактаваў сям'ю. Наступны крок у адкрыцці і вяртанні памяці святога на радзіму належыць журналістцы штомесячніка „Przegląd Prawosławny" Наталлі Клімук. Яна апісала сваю сустрэчу з Алай Жак, унучкай святога, якая ў недалёкім мінулым, разам з сынам і дачкой наведала Вэрсток і пушчанскіх сваякоў. Якраз гэты сямейны, асабісты сюжэт жыва і праўдзіва ўздзейнічае на ўяўленне.

Сямейны здымак святога, паводле якога напісана першая яго ікона, паказвае ўражлівага чалавека глыбокай веры. З яго вачэй ззяе чысціня і дар празорлівасці. Калі пра празорлівасць і талент — гэта неад'емная частка душы прыпушчанскіх людзей.

Святы пакутнік Сцепанюк сам нясе да канца свой крыж. Яго рашэнне пра змену прафесіі, калі ён пакідае працу настаўніка і пераходзіць у духоўны сан служыць Богу, напамінае стары біблейскі сюжэт. Узамен за жыццё сваіх дзяцей ён абяцае верна здзяйсняць волю Усявышняга. Пасля, свядома прыме смерць, каб такім чынам прадоўжыць божую ахову для сваіх дзетак....

Яго смерць не знішчае сям'і. Матушцы Еўфрасінні Сцепанюк з чацвёркай дзетак пашанцуе з'ехаць з Казахстана ў Беларусь. Прытулак знойдзе ў сваякоў ля Воранава, што на Гродзеншчыне. Нягледзячы на нястачы і бездапаможнасць, сама выгадуе дзетак ды пашле іх у людзі. Сям'я захавае асноўнае — дар. Унучка Ала Жак, будучы студэнткай астраноміі Віленскага ўніверсітэта, вырашыць ступіць у сляды сваёй бабулі. Яна выйдзе замуж за святара, каб разам несці паслугу прыгнечанаму савецкай бязбожнасцю грамадству. Яе ўспаміны праліваюць святло на асобу бабулі Еўфрасінні. Запамятала яе простай, жыццярадаснай жанчынай, якая ніколі не наракала на лёс. І вельмі прыгожа спявала ім царкоўныя і народныя песні.

* * *

Дваюрадная ўнучка святога, Ніна Казачук, спачатку доўга называла імёны спонсараў, якія адгукнуліся на яе просьбу. Вось, пасля першага малебна ў го-









нар кананізаванага сваяка ёй захацелася зрабіць нешта больш.

— Бо першую ікону мы заказалі на свой кошт, — паясняе. — Яе напісалі ў нас, на Падляшшы, па здымку, які адшукаў і перадаў Яраслаў Харкевіч.

Пасля, разам з бацюшкам дамовіліся, каб заказаць ікону большых памераў. Кошт ацанілі на пятнаццаць тысяч злотых. Тады Ніна Казачук узяла справы ў свае рукі. Яна абышла ўсіх спонсараў у горадзе, павеце і ваяводстве. Мала хто адмаўляўся. Дапамагалі палітыкі, лекары, уласнікі крамаў, звычайныя людзі.

— Вельмі дапамог нам Сяргей Мартынюк з Нарвы, — сваячка святога просіць праз наш часопіс падзякаваць шэфу прадпрыемства „Пронар". Просіць таксама назваць дзесяткі іншых больш і менш вядомых ахвяравальнікаў. Гэта дзякуючы ім назбірала патрэбную суму, хаця на пачатку гэта здавалася немагчымым.

Дзве розныя выявы святога Георгія з Палічнай

— Праз гэтыя два месяцы я мела мокрыя ногі, — кажа пра сваю ангажаванасць, — нікога не абмінула. Праўда, яе місію нехта падтрымліваў „зверху". Бо як інача назваць падтрымку і дапамогу Уладзіміра Зінчука з Любліна. Ён жа дапамагаў ёй не толькі ў фінансавым сэнсе. Калі ўжо не хапала ёй сілы, ён званіў, падтрымліваў яе на духу.

— Мне вельмі прыкра, што яго сёння няма з намі, — адзначае з сумам, — яго проста не запрасілі. На ўрачыстае асвячэнне іконы не запрасілі таксама Алу Жак. Сваячка святога вельмі хацела пабываць у дзень асвячэння іконы свайго дзядулі....

* * *

У самой Палічнай пакуль не пазначанае месца, дзе нарадзіўся святы Георгій.

На панадворку захаваліся старая хатка, стадола, калодзеж.

— Я ўпэўнена, што гэтае месца даглядае сам святы, — кажа спадарыня Ніна. — Ведаеце, у гэтым кутку ўспых пажар, усё навокал згарэла. А нашу хатку агонь абмінуў, нічога не згарэла, адно вокны патрэскаліся. Ці ж гэта не цуд?!

Пытаем, у чым заключаецца прычына незразумення паміж сям'ёй святога і парафіяй у Вэрстоку.

— У гэтай новай іконе я не бачу свайго святога, — кажа сваячка. — Для мяне гэта зусім іншая асоба.

Новую ікону памерамі 90 х 110 см распісалі ва Украіне. Калі параўнаць з той першай, спісанай са здымка, розніца відавочная простым вокам.

— А найбольш мне крыўдна за тое, — кажа Ніна Казачук, — што тую першую наш бацюшка хацеў перадаць у капліцу ў Апаку. Як гэта так — ён, святы Георгій, тут хрышчаны. Тут, каля царквы, спачываюць нашы продкі. Ці можна нам перадаць яго першую ікону дзесьці ў іншае месца. А калі ўжо яна ў Апацы неабходная, дык няхай сабе апачукі закажуць у іканапісцаў!

Слухаючы аргументаў Ніны Казачук, мы чамусьці думалі пра яе непакорнага продка.

Сам настаяцель Вэрстоцкага прыхода непрыемна ўражаны такім завяршэннем справы. На яго плечы выпалі дэмаграфічны заняпад, генеральны рамонт царквы ды пазітыўны распаўсюд культу святога...

Пра выканаўцаў дарагой іконы, якія папсавалі сваякам святога і настаяцелю свята, ніхто не згадваў, быццам на іх баку і не было віны.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

Аўтарка перад хатай святога з прыхаджанамі

ISSN 0546-1960